# ЗМАГАЦЦА ЗА ПЯРШЫНСТВО Ў КОНКУРСЕ!

## РАЎНЯЦЦА ПА ВОРШЫ І БАРЫСАВУ

### Скарыстаць іх вопыт па пашырэньні часопісі „Шляхі Калектывізацыі“

З 15 сакавіка г. г. рэдакцыяй часопісі „Шляхі Калектывізацыі“ абвешчаны конкурс на лепшае правядзеньне работы па пашырэньні часопісі. Значэньне гэтага конкурса таксама, як і тое, што часопісь „Шляхі Калектывізацыі“ зьяўляецца адзінаю часопісьсю БССР, якая аддае пераважную ўвагу сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, унядрэньню ў сельскую гаспадарку агратэхнікі, барацьбе па падрыхтоўцы калгасных кадраў (брыгадзіраў, жывёлаводаў, сьвінароў і г. д.), што часопісь актыўна змагаецца за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў і што часопісь многа чаму вучыць работнікаў у галіне калгаснага будаўніцтва — Аршанскі і Барысаўскі райкалгассаюзы добра зразумелі. Гэтыя райкалгассаюзы лічаць, што бяз кіруючай часопісі — „Шляхі калектывізацыі“ не павінен застацца ні адзін калгас, ні адна калгасная брыгада. І сапраўды, Аршанскі і Барысаўскі райкалгассаюзы, ня ў прыклад Гомельскаму, Буда-Кашалёўскаму, Быхаўскаму райкалгассаюзам, якія адмовіліся ад організацыі калектыўнай падпіскі на часопісь, паставілі справу так, што на сёнешні дзень усе калгасы іх раёнаў выпісваюць часопісь „Шляхі калектывізацыі“.

Мэтай гэтага артыкулу і зьяўляецца паказаць мерапрыемствы, дзякуючы якім Барысаўскі і Аршанскі райкалгассаюзы змаглі так хутка прасунуць часопісь „Шляхі Калектывізацыі“ у кожны калгас.

Тут трэба памятаць, што ў першую чаргу пра пашырэньне часопісі павінны ведаць раённыя газэтныя аддзяленьні саюздруку, якія нават маюць пэўныя кантрольныя лічбы, але паколькі гутарка ідзе аб калгаснай часопісі, то аб гэтым павінны клапаціцца і райкалгас саюзы, тым больш, што ёсьць нарочныя дырэктывы калгасцэнтру БССР, якія абавязваюць усе райкалгассаюзы ўсямерна садзейнічаць справе прасоўваньня часопісі, арганізоўваць падпіску для калгасаў.

Аршанскі і Барысаўскі райкалгассаюзы прасунулі часопісь у кожны калгас шляхам арганізацыі калектыўнай падпіскі. Многія райкалгассаюзы скажуць: як-жа арганізуеш калектыўную падпіску, калі на бягучым рахунку адсутнічаюць сродкі для гэтай мэты, або проста няма грошай і г. д. (Гомельскі, Быхаўскі райкалгассаюзы). Папярэдне зьвярнем увагу на тое, што за свой кошт (накшталт падарунка) Райкалгассаюзы не павінны выпісваць для калгасаў часопісь. Часопісь калгасы выпісваюць за свае сродкі. Але каб скарэй прасунуць часопісь у калгасы, Аршанскі і Барысаўскі райкалгассаюзы дагаварыліся з раённымі аддзяленьнямі саюздруку, даўшы абавязацельства, што грошы райкалгассаюзам будуць унесены праз месяц-паўтара, на аснове чаго аддзяленьні саюздруку зрабілі заказ на часопісь з разьліку для кожнага калгасу адзін экзэмпляр часопісі.

Як узыскаюцца для пакрыцьця гэтага крэдыту грошы? Узыскаць гэтыя грошы — самая лёгкая справа, бо масавай тут работы праводзіць не патрэбна, а толькі дагаварыцца з старшынёй праўленьня. Калі, напрыклад, зроблены заказ на паўгода, то з кожнага калгасу неабходна сыскаць 1 р. 50 кап. Трэба не забываць, што на працягу 1—2 месяцаў інструктары Райкалгассаюзу пабываюць у кожным калгасе і акрамя таго многія раённыя работнікі наведваюць калгасы, а такую работу яны ўпаўне змогуць прарабіць. Да гэтага трэба ведаць, што пошта таксама павінна ўмяніць у абавязак кожнага лістаносца зрабіць гэтую работу. Як бачым, зусім лёгка можа кожны Райкалгассаюз арганізаваць калектыўную падпіску. Гэта зрабілі Аршанскі і Барысаўскі райкалгассаюзы. Іх мерапрыемствы павінны пераняць усе райкалгассаюзы БССР.

Ні ў якім разе немагчыма забываць пра аднаасобны сэктар. Райаддзяленьні саюздруку павінны ў найкарацейшы тэрмін мабілізаваць усіх лістаносцаў на ўсямернае прасоўваньне часопісі сярод беднякоў і сераднякоў-аднаасобнікаў. Трэба ня толькі пашыраць часопісь, але праводзіць актыўную масавую работу як з калгасьнікамі, так і беднякамі-серадняками аднаасобнікамі, з тым, каб часопісь штодня чыталі, каб усе мерапрыемствы ў галіне сацыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, што друкуюцца ў часопісі, штодзенна праводзіліся ў жыцьцё. Вось чаму часопісь „Шлях Калектывізацыі“ павінна быць у кожным саўгасе МТС і калгасе.

Часопісь „Шляхі Калектывізацыі“ павінны чытаць усе калгасьнікі, рабочыя саўгасаў, МТС, беднякі і сераднякі-аднаасобнікі.

**М. В**

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

12 1932 ЧЭРВЕНЬ

ОРГАН НАРКАМЗЕМУ і КАЛГАСЦЭНТРУ БССР





ЗЬМЕСТ



## Пазыка пераможнага сацыялістычнага будаўніцтва

(*Артыкул Наркамфіна БССР тав. А. Хацкевіча*).

**Бальшавіцкімі тэмпамі рэалізуем пазыку „Чацьвертага заключнага году пяцігодкі".**

**Кожнаму калгасьніку—аблігацыю пазыкі.**

Наперакор „прароцтвам" буржуазных эканамістаў і прадраканьням правых і „левых" апартуністаў, рабочая кляса і працоўнае сялянства Савецкага саюзу, пад кіраўніцтвам ленінскай камуністычнай партыі, з посьпехам заканчваюць першую пяцігодку і, узброеныя вопытам барацьбы на фронце будаўніцтва сацыялізму, бадзёра і цьвёрда падыходзяць да другой пяцігодкі, пабудовы бясклясавага грамадзтва.

Нашчэнт разьбіты надзеі клясавых ворагаў на крах сацыялістычнага будаўніцтва, на развал фінансавай гаспадаркі Саюзу.

Дзякуючы творчаму энтузіязму пралетарыяту і калгасных мас, дзякуючы няўхільнаму ажыцьцяўленьню генэральнай лініі партыі, ленінскай на палітыкі, завершана пабудова фундаманту сацыялістычнай эканомікі, заваёўваюцца подступы да другой пяцігодкі.

Расьце і мацнее сацыялістычная гаспадарка ў СССР. Пад ударамі крызісу развальваецца і руйнуецца гаспадарка ва ўсіх капіталістычных краінах.

Будуючы адзін за адным новыя гіганты сацыялістычнай індустрыі, Савецкі саюз ажыцьцяўляе лёзунг „у самы кароткі гістарычны тэрмін дагнаць і перагнаць перадавыя ў тэхнічных адносінах капіталістычныя краіны".

На аснове індустрыялізацыі і сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, шырокага ўжываньня машыннай тэхнікі, Савецкі саюз пертварыўся з краіны дробнага земляробства ў краіну самага буйнага ў сьвеце сацыялістычнага земляробства.

Цалкам ліквідавана беспрацоўе. Заканчваецца ліквідацыя няпісьменнасьці, уводзіцца ўсеагульнае абавязковае навучаньне на базе сямігодкі. Усё больш паляпшаецца дабрабыт працоўных мас краіны.

Чым больш мацнее сацыялістычная гаспадарка, чым больш паляпшаецца дабрабыт працоўных, тым больш павялічваюцца ўкладаньні мас у справу сацыялістычнага будаўніцтва. Ня толькі сваёй творчай працай, але і сваімі ўласнымі сродкамі пралетарыят і працоўнае сялянства будуюць сацыялізм.

Рэалізацыя масавых дзяржаўных пазык па Савецкім саюзе дала ў 1927 г. 200 млн. руб., у 1928 г.—507 млн., у 1929 г.—942 млн., у 1930 г.—1047 млн., у 1931 г. 2.035 млн. руб. Па БССР адпаведна—2,7 млн. р., 10,3 млн. р. 18 млн. р., 20,1 млн., 44,6 млн. руб.

Вось чаму мы будуем нашы фінансавыя пляны з разьлікам на шырокае добрахвотнае ўцягненьне ў справу сацыялістычнага будаўніцтва вольных сродкаў самога насельніцтва. З кожным годам няўхільна зьніжаецца доля абавязковых плацяжоў у плянах мабілізацыі сродкаў. У 1930 г. яны займалі 48 проц., у 1931 г.—44 проц., у 1932 г. толькі 36 проц. Фінансавы плян чацьвертага заключнага году—гэта „сьмелая стаўка на грамадзкую самадзейнасьць працоў-

ных мас, пэўны разьлік на папулярнасьць нашай праграмы сацыялістычнага будаўніцтва“ (Грынько).

Выпушчаная зараз паводле ініцыятывы і патрабаваньняў перадавых пралетараў і калгасьнікаў Савецкага саюзу, пазыка „Чацьвертага, заключнага году“, зьяўляецца важнейшай неадлучанай часткай праграмы мабілізацыі сродкаў бягучага году.

Пасьпяховая рэалізацыя гэтай пазыкі мае выключна-важнае значэньне. У бягучым годзе мы завяршаем першую бальшавіцкую пяцігодку. Пазыка „чацьверты заключны“ зьяўляецца самым буйным грашовым укладам працоўных у справу барацьбы за тэхнічна-эканамічную незалежнасьць Саюзу.

Закон, выданы ЦВК і СНК Саюзу, прадугледжвае адлічэньне ў дзяржаўны і мясцовы бюджэт СССР 25 проц. ад сумы рэалізацыі пазыкі па БССР. Такім чынам, ад нашага ўдзелу ў рэалізацыі пазыкі, ад вынікаў кампаніі ў значнай меры будзе залежаць размер сродкаў, якія мы зможам атрымаць і накіраваць на паскарэньне тэмпаў гаспадарчага і сацыяльна-культурнага будаўніцтва, на далейшае паляпшэньне сацыяльна-бытавых умоў рабочых мас і працоўнага насельніцтва Савецкай Беларусі.

Для таго, каб пасьпяхова правесьці рэалізацыю новай пазыкі, неабходна шырокая мабілізацыя ўсіх сіл. Партыйныя, савецкія, прафсаюзныя, камсамольскія і ўсе грамадзкія арганізацыі павінны разгарнуць вялікую арганізацыйна-масавую работу. Асабліва значэньне набывае актыўны ўдзел у справе распаўсюджваньня пазыкі перадавікоў фабрык, заводаў, саўгасаў і калгасаў, асабліва ўдарнікаў і ўдарніц фінансавага фронту. Мы маем па БССР звыш 15.000 ударнікаў фінансавага фронту, якія на справе даказалі сваю адданасьць задачам бесьперабойнага фінансаваньня сацыялістычнага будаўніцтва. Кожны перадавы рабочы і калгасьнік, кожны партыйны і прафэсыянальны работнік, кожны ўдарнік фінансавага фронту павінен быць ініцыятарам сацыялістычнага спаборніцтва гарадоў, фабрык, заводаў, цэхаў, брыгад, раёнаў, сельсаветаў, калгасаў і вёсак на лепшае і хутчэйшае выкананьне пляну рэалізацыі.

Асабліва важна разгарнуць шырокую растлумачальную і арганізацыйна-масавую работу на вёсцы.

Вёска да апошняга часу адставала ў адносінах рэалізацыі дзяржаўных пазык. Між тым грашовыя даходы вясковага насельніцтва шпарка ўзрастаюць. **Апошнія пастановы партыі і ўраду аб загатоўках збожжа і жывёлы і разгортваньне калгаснага гандлю павінны выклікаць далейшае значнае павялічэньне грашовых даходаў вясковага насельніцтва.** Ня гледзячы на павялічэньне дзяржаўных укладаньняў у сельскую гаспадарку, сельгаспадатак у бягучым годзе ня толькі не павялічваецца, а нават зьніжаецца ў параўнаньні з мінулым годам. Вёска мае такім чынам усе прадпасылкі для пасьпяховай рэалізацыі новай пазыкі.

**Разгарнуць так работу, каб ня было працоўнага без аблігацыі пазыкі „Чацьвертага заключнага“—абавязак усёй пралетарскай грамадзкасьці.**

Партыйныя і савецкія органы на мясцох павінны стаць на чале гэтай важнай гаспадарча-палітычнай кампаніі.

Трэба адкінуць думку аб тым, што рэалізацыя пазыкі датычыць толькі апарату ашчадкасы. Усе зьвеньні фінансавага і крэдытнага апарату, кожны фінансава крэдытны работнік паасобку павінен быць у перадавых радоў байцоў за пасьпяховае выкананьне пляну рэалізацыі пазыкі.

Вялікія абавязкі падаюць на камісіі садзейнасьці дзяржкрэдыту, якія павінны стаць вядучымі зьвеньнямі кампаніі рэалізацыі.

БССР заваявала рад перамог на фінансавым фронце.

Замацаваць і пашырыць гэтыя посьпехі баявымі тэмпамі рэалізацыі пазыкі „чацьвертага заключнага“—ганаровая задача ўсёй нашай грамадзкасьці.

# АБ РЭАЛІЗАЦЫІ ПАЗЫКІ „ЧАЦЬВЕРТАГА ЗАКЛЮЧНАГА ГОДУ ПЯЦІГОДКІ“

*(Пастанова ЦК КП(б)Б).*

Выкананьне праграм сацыялістычнага будаўніцтва чацьвертага, заключнага году пяцігодкі, бальшавіцкае ўступленьне ў другую пяцігодку—пяцігодку пабудовы бясклясавага грамадзтва, завяршэньне сацыялістычнай рэканструкцыі ўсёй гаспадаркі на базе навейшай тэхнікі патрабуюць максымальнага ўзмацненьня фінансавай базы.

У адказ на запатрабаваньне лепшых ударнікаў сацыялістычнага будаўніцтва аб выпуску новай пазыкі—пазыкі бальшавіцкіх перамог, урад СССР пастанавіў выпусьціць масавую пазыку „чацьвертага, завяршаючага году пяцігодкі“ у суме 3,2 мільярда рублёў.

Поўнае выкананьне пляну рэалізацыі пазыкі, вызначанай па БССР у суме 67,5 мільёна рублёў і для чыгуначнікаў у 2,7 мільёнаў рублёў (у цэнтралізаваным парадку), патрабуе ад усіх партарганізацый выразнага і аперацыйнага кіраўніцтва, шырокага разгортваньня масава-палітычнай работы, узмацненьня арганізуючай ролі камсамольскіх, прафсаюзных, савецкіх і грамадзкіх арганізацый па забясьпечаньні масавага правядзеньня кампаніі, пры захоўваньні асноўнага прынцыпу рэалізацыі пазыкі—добраахвотнасьці.

**ЦК КП(б)Б пастанаўляе:**

1. Прапанаваць усім ГК і РК КП(б)Б узяць пад сваё непасрэднае кіраўніцтва і ўстанавіць неаслабны кантроль за работай па рэалізацыі пазыкі, праводзячы яе, як важнейшую гаспадарча-палітычную кампанію, сапраўдна бальшавіцкімі тэмпамі з тым, каб на працягу чэрвеня завяршыць кампанію па рэалізацыі пазыкі ў горадзе і вёсцы.

2. Пытаньні аб значэньні новай пазыкі і мэтодах яе рэалізацыі прапрацаваць на адкрытых партыйных, камсамольскіх і дэлегацкіх сходах жанчын, сходах шырокага прафактыву, сходах рабочых, служачых, калгасьнікаў, беднякоў і серадdespнякоў—аднаасобнікаў.

3. ГК і РК КП(б)Б умацаваць ашчадкасы моцнымі кадрамі, здольнымі забясьпечыць арганізацыю і правядзеньне кампаніі, замацаваўшы іх за ашчадапаратам, не адрываючы на іншыя работы.

4. Улічваючы вялізарную ролю камісій садзейнасьці—асноўнага зьвяна грамадзкасьці фінфронту—у правядзеньні гэтай кампаніі, асабліваю ўвагу зьвярнуць на ўмацаваньне сыстэмы камісіі садзейнасьці лепшымі ўдарнікамі, рабочымі, калгасьнікамі і актывістамі.

5. ЦК ЛКСМБ, пад адказнасьць тав. Герцовіча, забясьпечыць актыўны ўдзел усёй камсамольскай арганізацыі—шэфа ашчадсправы ў кампаніі рэалізацыі пазыкі, увязаўшы гэту работу з камсамольскім фінпаходам, які зараз праводзіцца, і надыходзячым Усебеларускім зьлётам камсамольцаў-ударнікаў фінфронту, паслаўшы на дапамогу мясцом камсамольскія брыгады актывістаў.

Забясьпечыць шырокі ўдзел піянэраў і вучняў у кампаніі, скарыстоўваючы ўсе формы піянэрработы.

6. ЦСПСБ, пад адказнасьць тав. Кавалёва ў аднадзенны тэрмін распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы па забясьпячэньні актыўнага ўдзелу прафсаюзаў у кампаніі, вылучыўшы члена прэзыдыуму, адказнага за яе правядзеньне (прозьвішча члена прэзыдыуму паведаміць у агітмасавы аддзел). Для аказаньня дапамогі мясцовым арганізацыям у апэрацыйнай рабоце па рэалізацыі пазыкі, вылучыць на ўвесь тэрмін кампаніі ня менш 25 адказных работнікаў.

Забясьпечыць актыўную і непасрэдную дапамогу прафсаюзнай масы сельсаветам, саўгасам, МТС і калгасам у правядзеньні кампаніі, арганізаваць праз сыстэму шэфработы ў дні адпачынку агітпаходы прафактыву ў вёскі.

7. Абавязаць ЦСПСБ і ЦП саюзаў, якія абслугоўваюць сэзонных рабочых, разгарнуць масавую работу па поўным ахопе падпіскай на пазыку ўсіх сэзоньнікаў, распрацаваўшы канкрэтныя формы і мэтады правядзеньня кампаніі.

8. Калгасцэнтру ў 2-дзенны тэрмін распрацаваць і накіраваць на месцы канкрэтны плян рэалізацыі пазыкі сярод шырокіх калгасных мас. Асаблівую ўвагу зьвярнуць на актывізацыю калгасных камсодаў, разгортваньне масавай работы і сацыялістычных яе форм—сацспаборніцтва і ўдарніцтва. Вылучыць члена праўленьня КГЦ, адказнага па правядзеньні кампаніі па калгассыстэме, паведаміўшы аб гэтым агітацыйна-масавы аддзел ЦК КП(б)Б.

9. ЦСПСБ і Калгасцэнтру вызначыць перадавыя вядучыя пункты (брыгады, групы, агрэгаты, прадпрыемствы, саўгасы, МТС і калгасы), пераносячы вопыт іх работы на адстаючыя вучасткі. Шырока скарыстаць ініцыятыву ўдарнікаў фінфронту.

Арганізаваць сацспаборніцтва і ўдарніцтва па рэалізацыі пазыкі і канкрэтна кіраваць ею.

10. Белкаапсаюзу забясьпечыць актыўны ўдзел усёй каапэрацыйнай сеткі ў кампаніі, шырока скарыстоўваючы савецка-калгасныя рынкі ў мэтах папулярызацыі пазыкі. У 2-дзенны тэрмін даць сэкцыі разгорнуты плян работы.

11. Абавязаць Белрадыёцэнтр забясьпечыць сыстэматычныя радыёперадачы, пераклічкі і іншыя формы работы аб хадзе кампаніі.

12. Белдзяржкіно забясьпечыць папулярызацыю кампаніі праз кіноздымкі, хроніку ходу кампаніі, здымкі перадавікоў, ударнікаў фінфронту, якія дасягнулі лепшых вынікаў у барацьбе за новую пазыку.

13. Цэнтральным органам усіх добраахвотных таварыстваў у 2-дзенны тэрмін разаслаць на месцы канкрэтныя распрацаваныя пляны правядзеньня кампаніі і забясьпечыць удзел у ёй усіх членаў таварыства.

14. НКФ устанавіць штодзеннае апэрацыйнае кіраўніцтва і ўлік ходу кампаніі. Вылучыць грашовы фонд для прэміяваньня лепшых вучасткаў і асоб, якія ўдарна выканаюць заданьне па рэалізацыі пазыкі.

15. Цэнтральнаму, раённаму і нізавому друку арганізаваць шырокую грамадзкасьць на правядзеньне кампаніі, разгарнуўшы масавую работу, і штодзенна асьвятляць ход кампаніі, паказваючы лепшыя прыклады работы, пераносячы вопыт перадавых прадпрыемстваў, саўгасаў, калгасаў і сельсаветаў на адстаючыя вучасткі.

16. Пастанову апублікаваць у друку.

Касьба ў калгасе „Бальшавік“.



# УВАГА ПРАПОЛЦЫ І УБОРЦЫ УРАДЖАЮ

## ПРАВІЛЬНА ПЕРАКЛЮЧЫЦЬ БРЫГАДЫ З ВЕСНАВОЙ СЯЎБЫ НА ПРАПОЛКУ І ЎБОРКУ

Задача падвышэньня ўраджайнасьці і зьнішчэньня страт у сельскагаспадарчай вытворчасьці вымагае суровага захаваньня тэрмінаў пасеву, праполкі і ўборкі і правядзеньня ўсіх агратэхнічных мерапрыемстваў. Таму пры пераключэньні брыгад з веснавой сяўбы на прапалачную і ўборачную кампанію, расстаноўка рабочай сілы ў брыгадах набывае рашаючае значэньне. Трэба рабочую сілу расставіць так, каб яна забясьпечвала: 1) максымальнае падвышэньне вытворчасьці працы; 2) поўнае скарыстаньне наяўнай працоўнай сілы, коннай цягі і машын у брыгадзе; 3) аднachасовае выкананьне рознымі групамі брыгад усіх работ у даным пэрыядзе; 4) каб кожны від работ выконваўся канвэерным парадкам; 5) хуткае пераключэньне груп брыгады з адной работы на другую; 6) падвышэньне кваліфікацыі калгасьнікаў і г. д.

Такім чынам, кожная брыгада калгасу разьбіваецца на групы, колькасны склад якіх вызначаецца ў залежнасьці ад выконваемай работы і тэхнічнай узброенасьці, якія выконваюць аднachасова розныя работы на сваім вучастку. Тут вельмі важна будзе, каб асноўны касьцяк групы пры пераключэньні з адной работы на другую, напрыклад, на ўборачную кампанію—захаваўся. Толькі прапрацаваўшы пэўны адрэзак часу, група можа зработацца і дысцыплінавацца, а таксама можа даць найвышэйшую вытворчасьць працы.

Прыклад пераключэньня брыгады і расстаноўкі працоўнай сілы на час праполачна-ўборачнай кампаніі магчыма бачыць у брыгадзе № 1 калгасу „Случ № 2“. Гэта брыгада мае ў сваім складзе 35 калгасьнікаў, з іх мужчын—15, жанчын—20. На час веснавой сяўбы брыгада была разьбіта на 2 групы, якія згодна каляндарнаму пляну скончылі сяўбу да 27 мая. Прычым частка 2 групы ў 5 асоб, складаючая паасобнае зьвяно, працягвала пасадку гародніх культур і памідор.

З 28 мая паасобныя зьвеньні брыгады пераключаюцца на прапалачныя работы наступным чынам: 2 зьвяны аратых 1-й і 2-й групы, існаваўшых у час сяўбы, у колькасьці 8-мі асоб з 16 коньмі і адпаведнай колькасьцю плугоў пераходзяць на ўспашку 50 **га** пад азім, які згодна норм выпрацовак у дзень павінны ўзараць 6 **га**, а ўсю працу скончыць 6 чэрвеня.

З 9 чэрвеня зьвяно першай групы ў складзе 4-х аратых пераходзіць на акучваньне бульбы. Да іх далучаецца зьвяно таксама першай групы з 12 асоб на апрацоўку бульбы, уся гэта група заканчвае сваю работу 19 чэрвеня. Апошняе зьвяно першай групы з веснавой сяўбы было пераключана раней на праполку раньняга ільну і яна-ж заканчвала бараньбу бульбы да 8 чэрвеня. А адно зьвяно 2-й групы з 10 асоб па скончэньні веснавой сяўбы 26 мая пашла цалкам у мясцовы адыход да 25 чэрвеня.

Другое зьвяно другой групы ў складзе 5 калгасьнікаў, якое канчала да гэтага часу пасадку гародніх культур, з 3 чэрвеня пераключана на праполку гароду да 20 чэрвеня. Да іх з 8 чэрвеня далучаецца зьвяно другой групы з 4-х асоб, працаваўшых раней на ўспашцы пад азімую. Пасьля скончэньня праполкі гароду апошнія 2 зьвяна 2-й групы, за выключэньнем адной асобы, якая прымацоўваецца на ўборку канюшыны,—пераходзяць на другую полку лёну, і канчаюць яе 26 чэрвеня. А потым зьвяно да 11 ліпеня пераключаецца на другое акучваньне бульбы і ўжо затым пераходзяць на другую полку гароду, якую і скончаюць да 26 ліпеня.

З 20 чэрвеня 1-я група у колькасьці 16 асоб цалкам пераключаецца на ўборку канюшыны плошчай у 18 **га** і да яе далучаецца 1 чалавек першай групы. Да гэтай групы прымацавана касілка. Група, выходзячы з норм выпрацовак сенакасілкі ў 4—4,5 **га** пры зьменных конях, павінна скончыць усю працу да 24 чэрвеня.

Расстаноўка працоўнай сілы ў групе па ўборцы канюшыны наступная: 1 чал. працуе на сенакасілцы, 4—на сушцы, 5—на грэбцы і складаньні сена ў копы, 3 возчыка сена на сенавал, 2—накладвальнікі на вазы і 2 чал.—па ўкладцы сена на сенавале. Як бачна, што расстаноўка працоўнай сілы пабудавана па строгаму канвэеру. Сена, скошанае—сушыцца і адразу-ж возіцца. Такі канвэер упаўне забясьпечвае групу ўбраць у дзень 4 **га** канюшыны, а ўсю канюшыну да 24 чэрвеня. Па скончэньні ўборкі канюшыны ўся група цалкам з 25 чэрвеня сумесна з 7 асобамі, зьвярнуўшыся ў гэты час з адходу, пераключаецца на ўборку сенажаці плошчай у 87 **га**, якіх 40 **га** знаходзіцца на адлегласьці 16 **км** ад калгасу (там сена будзе складвацца ў стагі), а 47 **га** знаходзіцца на другім вучастку на адлеглласьці 7 **км** ад калгасаў, з якіх сена звозіцца на сенавал. Астатняя частка, зьвярнуўшыся з адходу, пераключаецца на бараньбу успаханай плошчы пад азім да 4 ліпеня.

На дальным вучастку ўборка сенажаці канчаецца 4 ліпеня. На гэтым вучастку, таксама як і на апошнім, сенакасілку прымяніць немагчыма, а таму сена косіцца ўручную. Норма выпрацоўкі для касцоў устаноўлена калгасам у 0,4 **га** ў дзень, а ўраджайнасьць з аднаго **га** запраектавана ў 15 **цнт**. Выходзячы з разьліку, што ў дзень трэба будзе скласьці сена ў стог у 50—60 **цнт**., расстаноўка працоўнай сілы вытварана наступным чынам: вызначаюцца 10 касцоў, 5 сушыльшчыкаў сена, 5 грэбшчыкаў і складальшчыкаў у копы і 7 асоб для стогамятаньня. Такі канвэер забясьпечвае ўборку сена ў дзень 4—5 **га**, альбо поўнае выкананьне заданьня па ўборцы сена з аднаго вучастку ў вызначаны тэрмін.

З 5-га ліпеня група, уключаючы і 3-х баранавальшчыкаў, пераходзіць на ўборку сенажаці з бліжняга вучастку,—шляхам канвэера: 7 касцоў, 8 асоб, вызначаных для сушкі, грэбкі і ўкладваньня сена ў копы, 2 накладвальшчыкі на вазы, 8 возчыкаў сена на сенавалы і 2 асобы, працуючых на сенавале. Дзенная выпрацоўка гэтай групы 2,8 **га** сенажаці і ўвесь вучастак скончаць да 23 ліпеня.

Частка брыгады ў складзе 17 асоб па скончэньні ўборкі сенажаці пераключаецца на ўборку азімай пшаніцы, якая пачынаецца з 24 ліпеня. Касьба ўсіх 16 **га** пшаніцы вытвараецца жняяркай, вытворчасьць

якой у дзень пры зьменных конях 4,5—5 **га**. Выходзячы з гэтага расстаноўка сіл будзе: 1 чал. працуе на жатцы, 8 чал. вяжуць снапы і ставяць іх у бабкі, 4 чал. возяць снапы, 2 чал. падаюць на вазы, і 2 чал. складваюць іх у гумны. Прычым зьвяно ў 8 асоб, якія вызначаны на возку снапоў і накладку іх на вазы і далейшы склад у гумны, прыступаюць да сваёй працы толькі з 27 ліпеня, а з 24 ліпеня па 26 ліпеня яны чысьцяць сілосную вежу і гумны, а таксама выконваюць розныя іншыя работы. Гэта зьвяно аканчвае сваю працу па возцы, накладцы і складцы снапоў 30 ліпеня ў той час, калі першае зьвяно ўборшчыкаў пшаніцы аканчвае сваю працу да 28 ліпеня.

Потым уся група цалкам з 1-га жніўня пераключаецца на сіласаваньне 50 тон трактарнай сіласарэзкай з тэрмінам сканчэньня да 5 жніўня. Другая-ж частка групы ўборшчыкаў сена з 8 чал. сумесна з 8 асобамі, якія да гэтага часу аканчвалі праполку гароду, пераключана на ўгнаеньне глебы пад азім. Расстаўлена рабочая сіла тут так: 3 пахара кожны дзень будуць успахваць 2,2 **га**, 7 возяць гной, 3 накладваюць яго на вазы, 5 чал. раскідваюць гной. Вывазка гною і запашка яго на плошчы 30 **га** аканчваецца 9 жніўня.

Па сканчэньні сіласаваньня з 6 жніўня 1-я група прыступае да малацьбы пшаніцы. У гэты час да іх далучаецца зьвяно возчыкаў і накладвальшчыкаў з другой групы ў 7 асоб. Тэрмін сканчэньня малацьбы 8 жніўня.

На ўборку яравых пераключаецца ўся брыгада цалкам з 9 жніўня. Заданьні брыгады—убраць 40 **га** збожжа, 10 **га** ільну, 17 **га** канюшыны і 2 **га** ўкосу. З іх 1-я група ў складзе 17 калгасьнікаў жняяркай-самаскідкай убірае збожжа да 19 жніўня. Рабочая сіла пры гэтым расстаўлена таксама, як і на ўборцы азімых. Затым гэта група пераходзіць на ўборку канюшыны, якую яна і аканчвае 23 жніўня.

Другая група ў складзе 18 калгасьнікаў у гэты час убірае лён. Расстаноўка працоўнай сілы тут наступная: першыя тры дні ўся група цалкам цярэбіць лён на плошчы 5 **га** і ставіць гэты лён у конусы, затым адно з вяно з 6 ці асоб пераходзіць на вязку снапоў з выцерабленай плошчы і пастаноўкі іх у бабкі. З іх 4 чал. вяжа лён у снапы, а 2 ставіць у бабкі. Астатняя частка групы церабільшчыкаў убірае апошнюю частку ільняной плошчы да 17 жніўня, а вязальшчыкі—да 18 жніўня. З 19-га жніўня зноў уся група цалкам пераходзіць на абіўку галовак і расьсьціл ільну. З гэтай групы 8 чал. абівае галоўкі, 2 чал. арфуе насеньне, 3 чал. падвозяць лён з поля і адводзяць ільнасаломку на сьцелішча, а 5 асоб заняты расьсьцілам ільна-саломы. Працу група заканчвае 25 жніўня. Прычым 2 чал. пасьля расьсьцілу да 1 верасьня застаюцца для прасушкі і сартыроўкі ільнанасеньня.

З 24 жніўня брыгада цалкам пераключаецца на пасеў азімых. Акрамя таго, для ўгнаеньня астатняй плошчы пад азім патрэбна вывезьці 1000 вазоў гною, запахаць гэты гной на плошчы ў 20 **га** і пасеяць азімі 50 **га**. У брыгадзе ёсьць радковая сяварка. Рабочую сілу і конную цягу магчыма расставіць так: 1 чал. і 6 коняй на бараньбу, 2 чал. і 3 кані на сяўбу, 4 чалавека і 8 коняй на ўспашку, 8 чал. і 8 коняй на возку гною, 4 чалавека для ўкладкі гною на вазы, 12 чалавек на раскідку гною і адзін чалавек на падвозку насеньня. Баранавальшчыкі канчаюць сваю працу 6 верасьня, сяўбіты—10 верасьня, пахары—4 верасьня, а возчыкі і раскідальшчыкі гною—3 верасьня. Па меры выкананьня работы зьвяно возчыкаў і раскідвальшчыкаў гною 5 верасьня пераключаюцца на сіласаваньне бульбоўніка і атавы колькасьцю ў 50 тон да 11 верасьня.

Другая частка брыгады за выключэньнем 2-х сейбітаў і 1 падвозчыка насеньня з 5 верасьня пачынаюць пад'ём трасты са сьцелішча і звозку яе. Працуюць яны ў такім парадку: 6 чал. паднімае трасту са сьцелішча, 6 чал. вяжуць, а 2 чал. звозяць яе для сушкі. Праца аканчваецца таксама 11 верасьня.

Пераключэньне брыгады на ўборку 40 **га** бульбы вытвараецца з 12 верасьня. Прычым бульба з 16 **га** сартыруецца і буртуецца, а бульба з астатняй плошчы ў 24 **га** перавозіцца ў бульбахранілішча. На ўборку бульбы да брыгады прымацоўваецца 13 чал. з калгаснага рэзэрву. Спачатку ўбіраецца бульба, якая забуртоўваецца. Для выкананьня гэтай работы патрабуецца 2 пахары, якія будуць выворваць бульбу, 28 асоб для выбаркі бульбы, 5 возчыкаў, 10 чал. для пераборкі бульбы і 3 для захаваньня бульбы ў бурты. Такая група ў дзень убярэ 1,6 **га** і забуртуе ў першы бурт 80—100 **цнт** бульбы, у другі бурт 50—60 **цнт**. і ў трэці—40—50 **цнт**. Прычым другі і трэці бурт накрываецца зьлёгку з тэй прычыны, што першы пойдзе для здачы дзяржаве, а другі на корм СТКФ.

21 верасьня ўбіраецца астатняя плошча бульбы, якая ссыпаецца ў бульбахранілішча калгасу. Для ўборкі гэтай бульбы брыгаду мэтазгодна разьбіць на дзьве групы: па аднаму пахару з 2-ма конямі і 17 чал. на падборку бульбы, па 5 возчыкаў і 2 чал. для захаваньня бульбы ў хранілішчы. Такія дзьве групы ў дзень убяруць 2 **га**, а ўсю працу скончаць 4 кастрычніка. Пасьля гэтага калгасны рэзэрв аслабаняецца ад працы ў брыгадзе, а сталы склад брыгады, разьбіўшыся на дзьве групы, пераходзіць на далейшыя па каляндарным пляне работы. Першая група ў 17 асоб з 5 кастрычніка пачынае ўборку гароднiны і караньплодаў, якая працягваецца да 13 кастрычніка. Другая група ў 18 калгасьнікаў тым-жа часам сіласуе батву гародніны і атаву траў. Ёй заданьне засіласаваць 50 тон, якое яна выконвае таксама да 13-га кастрычніка.

**60-гадовы ўдарнік.**



**Тав. Амбружэвіч Вік. Ів.** (калгас імя Будзённага, Дрысенскі раён) мае 60 год. Але ён не адстае ад маладых калгасьнікаў нават і на палявых работах.

У працоўнай кніжцы т. Амбружэвіча з 10 на 20 мая запісаны выпрацаваныя ім 12,63 працадні..

Уэшце частка брыгады ў колькасьці 24 асоб пераходзіць на малацьбу яравых культур трактарнай малатарняй. Другая група ў гэты час пачынае ўспашку на зяб, а трэцяя група ў 5 чал. пераключаецца на апрацоўку ільну. Прычым па скончэньні малацьбы частка першай групы пераходзіць на працу па здачы прадуктаў дзяржаве, а частка на апрацоўку лёну. Такім чынам дзякуючы такой расстаноўцы рабочай сілы ў брыгадзе і пасьлядоўнасьці работ, брыгада выконвае ўсё сваё вытворчае заданьне да 1 лістапада.

Прыведзены прыклад пераключэньня сталых брыгад з веснавой сяўбы на праполачныя і ўборачныя работы ў калгасе Слуцкага раёну паказвае, што толькі на аснове пабудаваньня ўсёй рабочай сілы па прынцыпе сталых вытворчых брыгад можна правільна расставіць сілы ў паасобныя перыяды сельскагаспадарчых работ суадпаведна аб'ёму работ гэтых перыядаў у калгасах і магчыма выканаць і перавыканаць у тэрмін усё вытворчае заданьне, як брыгадай паасобку, так калгасам у цэлым.

Пры пераключэньні паасобных груп, зьвеньняў брыгады на адпаведныя работы, выконваемыя імі ў сыстэме вытворчага заданьня, ні ў якім разе нельга падыходзіць механічна да вызначэньня колькаснага складу групы. Камплектаваньне груп, зьвеньняў у брыгадзе павінна выходзіць толькі з спэцыялізацыі калгасьнікаў і патрэбнасьці ў працоўнай сіле для выкананьня той альбо іншай работы. Разьмер групы, зьвяна ні ў якім разе не павінен правышаць колькасьць калгасьнікаў, патрэбную для вытварэньня работ. Склад групы, зьвяна не павінен быць менш патрэбнай колькасьці, бо гэта пагражае выкананьню работы ў цэлым. У аснову разьмера груп, зьвеньняў трэба пакласьці адпаведную колькасьць калгасьнікаў, патрэбную для абслугоўваньня тэй альбо іншай машыны, пры дапамозе якой выконваецца работа групы.

З пераходам груп, зьвеньняў з адной работы на другую, трэба чотка паставіць пытаньне аб своечасовым уліку працы, якасьці работ і аб скарыстоўваемых імі інвэнтары і конях. Улік працы павінен быць ужо вытваран у групе, калі яна пераходзіць на другую работу. Прымацаваны інвэнтар за групай павінен быць здан назад пры пераходзе на другую работу і своечасова ўзят другі інвэнтар, патрэбны для выкананьня работы, на якую пераключылася група. Коні застаюцца за брыгадай на ўвесь перыяд сельскагаспадарчых работ.

Толькі тады група захоўвае пасьпяховасьць у скончэньні другіх работ, калі яна пасьпяхова скончыць папярэднюю работу, будзе ўпэўнена ў правільнасьці налічэньня працадзён, згодна якасьці сваёй работы, і зьнішчаецца няўрадзіца ў скарыстаньні інвэнтара і коняй.

Пераход брыгады з адной работы на другую ў час праполачна-ўборачнай кампаніі немагчымы без вызначэньня тэрміну выкананьня ўсіх работ у вытворчым пляне брыгады. Ня можа быць чоткага пераключэньня брыгады з адной работы на другую без галоўнага рабочага пляну брыгады. У пляне павінна быць адзначана, што, калі, на якія работы і на які тэрмін ёй патрэбна дадатковая працоўная сіла. З другога боку калгас арганізуе сталыя брыгады, павінен для рэзэрву складасьці паасобныя заданьні (дапамога сталым брыгадам, адыход і г. д.) на ўвесь перыяд сельскагаспадарчых работ.

Залогам пасьпяховасьці ў выкананьні ўсіх работ, на якія брыгада пераключаецца з веснавой сяўбы, зьяўляецца ўдзел калгасьнікаў у складаньні пляну гэтага пераключэньня. Плян пераключэньня не павінен рабіцца праўленьнем у сваёй канцэлярыі. Да яго складаньня абавязкова павінны быць прыцягнуты брыгадзіры і ўвесь актыў брыгады. Толькі пасьля шырокага абгаварэньня, складзены плян пераключэньня брыгады зьявіцца жыцьцёвым і выконваемым.

**Фрабэр, Лэйтэс,**
**Броўкін.**

# Спазьненьне сенаўборкі вядзе к стратам і паніжэньню якасьці сена

Пасьпяховае разьвіцьцё сацыялістычнай жывёлагадоўлі залежыць ад своечасовага стварэньня моцнай кармавой базы. У справе стварэньня кармавой базы адным з асноўных відаў кармоў зьяўляецца сена, што відаць з удзельнай вагі сенажаці ў агульнай кармавой плошчы: сенажаці—57 проц., выпасы—22 проц., авёс—22 проц., кораньплоды—1 проц.

Сена зьяўляецца унівэрсальным кормам і па сваім уласьцівасьцям можа замяняць у значнай ступені моцныя кармы, што асабліва важна ў сучасны момант пры недахопе канцэнтраваных кармоў.

Пры наяўнасьці ў нас значных плошчаў пасеўных кармавых траў, а таксама прыродных высокапрадукцыйных лугавых фондаў (якія, галоўным чынам, разьмяшчаюцца па буйнейшым рэкам: Дняпру, Прыпяці, Сожу і інш.), пытаньне сенаўборкі, як адна з задач павялічэньня колькасьці і паднясеньня якасьці прадукцыі нашых лугоў, патрабуе максымальнейшай увагі. Аднымі агра-тэхнічнымі мерапрыемствамі палепшаньня сенажацяй яшчэ не вырашаецца пытаньне павялічэньня прадукцыі, калі іх не ўвязаць з арганізацыяй сенаўборачных работ.

Важнейшымі момантамі сенаўборкі зьяўляюцца: 1) тэрміны пачатку касьбы і 2) арганізацыя сенаўборачных машын, інвэнтару, цягавай і рабочай сілы.

Тэрміны пачатку касьбы траў зьяўляюцца адным з важнейшых момантаў у справе павялічэньня прадукцыі, як з колькаснага, так і з якаснага боку, што можна бачыць з наступнага:

**Ураджай сена і колькасьць бялку з 1 *га* ў *цнт*.**

| Тэрміны касьбы | Колькасьць сена | Колькасьць бялку |
|---|---|---|
| У момант каласэньня . . . . | 50 | 5,3 |
| У момант цьвіценьня . . . . | 52 | 4,5 |
| Пасьля цьвіценьня . . . . . | 46 | 1,9 |

Калі з спазьненьнем уборкі траў мы не на многа трацім на колькасьці атрымоўваемай прадукцыі сена, то на якасьці гэта адбіваецца вельмі рэзка. Акрамя

таго, што раньнія тэрміны ў сенаўборцы даюць найбольшую колькасьць высокаякаснага сена, трэба лічыцца яшчэ з тым, што з раньнімі тэрмінамі ўборкі зьвязан цэлы рад іншых станоўчых бакоў сенаўборкі. Пры раньняй уборцы траў захоўваюцца найбольш каштоўныя часткі расьліны: лісьце і кветкі, якія складаюць амаль палову ўраджаю ўсяе масы сена і ўтрымоўваюць у сябе ў час цьвіценьня 2/3 бялку усяе расьліны, што галоўным чынам і пападае ў страты пры ўборцы, паколькі гэтыя часткі мяняюць свой спажыўны склад і лёгка выціраюцца пры ўборцы. Пры раньняй уборцы траў мы забясьпечваем сабе магчымасьць атрыманьня другога ўкосу траў (атавы), які складае да 40 проц. ураджаю высокаякаснага сена.

Раньняя ўборка траў прыпадае на менш напружаны пэрыяд у гаспадарцы з рабочай і цягавай сілай да часу наступленьня ўборкі збожжавых культур.

Раньняя уборка зьяўляецца адным з найбольш простых, непатрабуючых спэцыяльных выдаткаў спосабаў барацьбы з сьмяцьцёвымі расьлінамі.

Пры раньняй уборцы траў сьмяцьцёвыя расьліны не пасьпяваюць абсемяніцца і, будучы скошанымі, у высушаным выглядзе скармліваюцца жывёлай. Пры позьняй-жа ўборцы—сьмяцьцёвыя расьліны, будучы больш тлустымі, марудна сохнуць, чым ускладняецца сушка сена і зьніжаецца яго якасьць. Сьмяцьцёвымі таксама абсеменяюцца лугі, у выніку чаго з травастою выцясьняюцца найбольш каштоўныя культурныя травы.

Пачатак касьбы лягчэй устанавіць, як па аднагадовым, так і па шматгадовым бабовым травам у палявых пасевах, таму што ў апошні пэрыяд цьвіценьне пачынаецца адначасова і яго лёгка ўстанавіць. Больш складана абстаіць справа ў лугавых злакавых траў, дзе верхавыя і нівінныя злакі пачынаюць цьвісьці не адначасова. У такіх выпадках касьбу распачынаць трэба, як толькі распачнуць цьвісьці верхавыя злакі, не чакаючы нізавых злакаў, таму што пры зацяжцы касьбы, верхавыя травы перасьпяваюць і даюць грубае нізкаякаснае сена. Наогул распачынаць касьбу раіцца ня столькі па каляндару, як па надвор'ю і пачатку цьвіценьня траў, бо з гэтым зьвязана як колькасьць, так і якасьць сена. Пры першым укосе траў трэба старацца касіць ніжэй з мэтай атрыманьня найбольшага ўраджаю, а пры ўкосе атавы трэба касіць вышэй, каб не агаляць карнявой сыстэмы траў, якую могуць пашкодзіць маразы.

Сушку травы раіцца вытвараць ня тоўстым і ня зусім тонкім слоем, бяз лішніх пераварачваньняў яго, чым захоўваюцца найбольш каштоўныя часткі расьліны: кветкі і лісьцё, наяўнасьць якіх пры расьліне забясьпечвае хутчэйшую сушку. Сенажатныя плошчы гаспадаркі ў большасьці не зьяўляюцца аднароднымі, як па свайму батанічнаму складу, так і па воднаму рэжыму (заліўныя, балотныя і сухадолы), з прычыны чаго розныя вучасткі пад пакос будуць паступаць не адначасова. Таму, уся сенажатная плошча павінна быць разьмеркавана па часу пасьпяваньня траў, згодна чаго і ўстанаўліваецца каляндарны парадак паступленьня пад уборку тых ці іншых вучасткаў.

Сенаўборачныя машыны і інвэнтар павінны быць падрыхтаваны і праверaны поўнасьцю. Недастаючы інвэнтар патрэбна набыць сваячасова. Цягавая сіла павінна быць належным чынам падрыхтавана, якую ў час падрыхтоўкі да касьбы трэба забясьпечыць адпачынкам і павялічанымі кармавымі нормамі. Увесь конскі склад, які будзе працаваць па ўборцы сена, разьмяркоўваецца па брыгадам згодна наяўнай колькасьці машын. Як коні, так і машыны прымацоўваюцца да сталых працаўнікоў і знаходзяцца ўвесь час працы на адказнасьці апошніх.

Усе работы па сенаўборцы вытвараюцца сталымі брыгадамі, да якіх прызначаюцца сталыя брыгадзіры. Брыгады працуюць на вызначаных вучастках сенажацяй, разьлічаны на ўвесь час сенаўборкі, дзе брыгада праводзіць сваімі сіламі ўсе віды работ, пачынаючы ад касьбы і канчаючы ўкладкай сена ў стагі і звозкі яго. Для бесьперабойнай працы ў брыгадах ствараюцца спэцыялізаваныя зьвеньні па асобных відах работ: касьба, сушка, зграбаньне і г. д. Уся праца брыгады паміж асобнымі зьвеньнямі разьмяркоўваецца так, што адно зьвяно, напрыклад, касьба, дае поўную нагрузку для другога зьвяна—па сушцы і г. д. Такое дакладнае разьмеркаваньне работы брыгады паміж асобнымі зьвеньнямі праводзіцца згодна прынятых норм выпрацоўкі і забясьпечвае поўнае скарыстаньне рабочай сілы брыгады.

Арганізатарам усяго вытворчага працэсу брыгады зьяўляецца брыгадзір і таму гэта праца даручаецца лепшым ударнікам, цалкам аўладаўшым працэсам сенаўборкі і здольным арганізаваць працу на сацыялістычных мэтадах.

Сенаўборка — адзін з напружаных пэрыядаў у сельскагаспадарчай вытворчасьці, які поўнасьцю залежыць ад надворных умоў і таму ўся праца праводзіцца ў найбольш кароткія тэрміны са строгім улікам надвор'я.

Трэба адзначыць, што ў сенаўборцы ў нас ужываецца яшчэ многа старых „дзедаўскіх“ прыёмаў, якія пераходзілі па традыцыі ад аднаго да другога пакаленьня, дакаціўшыся да нашых часоў. Гэтыя прыёмы не павінна мець месца ў нашай сацыялістычнай гаспадарцы.

**А. Сільвестровіч.**

# ТЭРМІНЫ СКАНЧЭНЬНЯ СЕНАЎБОРКІ

Наркамземам БССР устаноўлены наступныя тэрміны ўборкі сена: 1-шы ўкос заліўных, балотных і штучных сенажацяй у паўднёвай зоне—3 ліпеня, цэнтральнай і паўночнай зоне—10 ліпеня, суходольныя і лясныя ў паўднёвай зоне—20 ліпеня, цэнтральнай—25 ліпеня і паўночнай—30 ліпеня, 2-гі ўкос сенажацяй у паўднёвай зоне—20 верасьня, цэнтральнай і паўночнай зоне—25 верасьня. Працягласьць першага ўкосу сенажацяй устаноўлена ў 20 дзён, другога ўкосу—15 дзён. Па канюшыне на корм першы ўкос у паўднёвай зоне павінен сканчыцца 25 чэрвеня, цэнтральнай і паўночнай зоне—30 чэрвеня, другі ўкос у паўднёвай зоне—30 жніўня, цэнтральнай і паўночнай зоне—5 верасьня.

Працягласьць першага ўкосу канюшыны 12 дзён, другога ўкосу—15 дзён.

# Правілы барацьбы з сьмяцьцёва-палявой расьліннасьцю

Сацыялістычная сельская гаспадарка дасягнула вялізарных посьпехаў. Плошча пасеву за два гады павялічылася на 18 млн. га. Амаль палова ўсіх зернавых культур ужо высяваецца сартавым насеньнем. Уведзен рад новых культур. Вельмі пашыраны плошчы тэхнічных культур, разгортваецца мэханізацыя сельскай гаспадаркі і г. д.

Аднак, у адносінах павышэньня ўраджаю мы яшчэ маем нязначныя дасягненьні і ня сумелі выкарыстаць вялізарных магчымасьцяй і пераваг сацыялістычнага земляробства на аснове ўнядрэньня перадавой тэхнікі і агранамічнай навукі.

Адна з галоўных прычын нізкага ўраджаю—засьмечанасьць палёў—спадчына індывідуальнай гаспадаркі. Сьмецьце—зьлейшы вораг ураджаю. Сарнякі павінны быць ліквідаваны ў найкарацейшы тэрмін, бо сацыялістычная сельская гаспадарка ня можа цярпець гэтых злосных шкоднікаў на сацыялістычных палёх.

Дасьледваньні нашых сельскагаспадарчых дасьледчых устаноў паказалі, што на адным гектары пахатнага пласта знаходзяцца сотні мільёнаў насеньня пустазельля і маса карнявішч. Кожны год з гэтага насеньня, а таксама і карнявішч вырастае вялізарная колькасьць сьмяцьцёвых расьлін, якія, паглынаючы вільгаць і спажыўныя рэчы з глебы, заглушаюць культурныя расьліны і рэзка зьніжаюць ураджай нашых палёў.

Спосабы барацьбы з пустазельлем падзяляюцца на папераджальныя і зьнішчальныя.

### Папераджальныя меры барацьбы з пустазельлем

З папераджальных мер барацьбы ўсе саўгасы і калгасы павінны ўжываць наступныя.

Не дапускаць да сяўбы неачышчанага ад сьмяцьцёвых домешак насеньня. Пасеўнае зерне павінна абавязкова ачышчацца і сартавацца ў залежнасьці ад характара культуры на веялках, сартыроўка, трыерах, ільнатрашчотках, кускутах і іншых спэцыяльных насеннаачыстных і сартовачных машынах. Пры сартаваньні для кожнай культуры павінен быць адпаведны падбор сіт.

На загатоўленае для пасеву сартавое зерне кожны саўгас і калгас павінен мець пасьведчаньне кантрольна-насеннай станцыі, пры чым да пасеву могуць быць дапушчана насеньне, адказваючае ўстаноўленым Наркамземам СССР правілам.

Утвараць старанную ачыстку насеннаачыстных і сартавачных машын, тары (мяшкоў, кулей і інш.) і зерняхавальняў.

Адходы, атрымліваемыя пры сартаваньні насеннага матар'ялу, выкарыстаць для скармліваньня жывёле ці птушцы ў перамолатым ці запараным выглядзе.

Гуменныя кармы (палова, мякіна і інш.) выкарыстаць на корм жывёле пераважна ў запараным выглядзе.

Выкарыстаць сьмяцьцёвыя расьліны для сіласу, асабліва пры халодным спосабе сіласаваньня, выключна да іх кветкаваньня.

Акашваць дарогі, межнікі, пустыры і другія месцы, не выкарыстоўваемыя пад пашню, дзе растуць сьмяцьцёвыя травы, да пасьпяваньня апошніх.

Уносіць у глебу гной для ўгнаеньня ў досыць перапрэлым стане.

Не дапускаць прапускоў і агрэхаў пры апрацоўцы глебы і пасеве.

Пры ўборцы пасеву не пакідаць на палёх няскошанымі зарасьлі сьмяцьцёвых траў.

Скармліваемыя пры апрацоўцы глебы і доглядзе за пасевамі канюшынішча і карэньні сарнякоў убіраць з поля і паліць.

Ужываць выпальваньне стэрні, асабліва ў стэпавай і засушлівай паласе Саюзу, ужываючы меры перасьцярогі ад пажараў.

Пры знаходжаньні ў пасевах ільну, канюшыны і люцэрны павілікі ў выглядзе плям ці гнёзд, безадкладна абкашваць гэтыя месцы да кветкаваньня павілікі, пакрываць саломай і спальваць, засяваючы вольныя месцы злакавымі расьлінамі.

### Зьнішчальныя меры барацьбы

Са зьнішчальных мер барацьбы саўгасы і калгасы павінны ў абавязковым парадку праводзіць наступныя:

Увядзеньне чыстых раньніх папараў у засушлівых раёнах, дзе ўвядзеньне чыстых раньніх папараў зьяўляецца абавязковым.

Сваячасовая (раньняя) зяблівая ўспашка.

На засьмечаных землях безадкладна пасьля зьняцьця ўраджаю ўтвараць лушчэньне жніўя.

Ужываньне на вельмі засьмечаных землях больш глыбокай асеньняй успашкі (ад 15 да 20 сантымэтраў).

Раньні пасеў яравых хлябоў.

Прапашка і праполка прапашных культур ня толькі ў міжрадзьдзях, але і ў радкох зараз-жа пры масавым зьяўленьні сьмяцьцёвых траў.

Ужываньне полкі зернавых і зерна-бабовых культур на зарослых найбольш злосным пустазельлем (асот, будзяк і інш.) вучастках.



Калгасьніцы за ўборкай сена. (Калгас „Бальшавік", Лагойскі раён).

Ужываньне на вельмі засьмечаных землях шырока-радных і істужкавых пасеваў, з абавязковай міжраднай апрацоўкай.

Пасеў угнятаючых сьмяцьцёвыя травы культур (азімае збожжа, грэчка, травы).

Увядзеньне правільных севазваротаў з адводам для асноўных вядучых культур найбольш чыстых ад сьмяцьцёвых расьлін зямель.

Стараннае ўтрыманьне папараў у чыстым выглядзе шляхам сваячасовага ўжываньня рыхленьня і другіх прыёмаў апрацоўкі для зьнішчэньня пустазельля.

### Спэцыяльныя меры барацьбы з асабліва злосным пустазельлем

Пры складаньні рабочай інструкцыі па барацьбе з пустазельлем неабходна ўлічыць акрамя ўказаных наступныя спэцыяльныя меры барацьбы з найбольш злосным пустазельлем:

а) **Шматгадовыя карнявішчныя сарнякі (пырэй, астрэц)**

У засушлівых стэпавых яровапшанічных раёнах на землях, вельмі засьмечаных указанымі карнявішчнымі сарнякамі, утвараць успашку пад яравую пшаніцу „на перагар“, прыўрочваючы яе да моманту наступленьня найбольш засушлівага летняга пэрыяду (ліпень, жнівень). Глыбіня гэтай успашкі павінна быць 18—20 сантымэтраў як для астрацовых, так і пырэйных зямель. Па праходжаньні 15—20 дзён, калі карнявішчы высахнуць, неабходна ўтварыць баранаваньне поля цяжкімі пружыннымі баронамі, з наступным зграбаньнем карнявішч, выдаленьнем іх з поля і спальваньнем.

Пры сырым і вільготным надвор'і неабходна ўжываць на пырэйных вучастках пэрыядычную перапашку (лушчэньне з мэтаю зьнішчэньня пырэя).

б) **Шматгадовыя сьмецьцяадпрысковыя сарнякі (асот жоўты, будзяк, малачай)**

Супроць данай групы шматгадовых сарнякоў неабходна сканцэнтраваць барацьбу ў раньнім папары шляхам асноўнай успашкі на глыбіню 15—18 сантымэтраў і наступных 3—4 апрацовак (лушчэньне ці перапашка) на глыбіню 8—10 сантымэтраў з наступным выцягваньнем карэньня шматгадовікаў баронамі на паверхню поля і спальваньнем іх.

в) **Аднагодныя яравыя (аўсюг, палявая гарчыца, сурэпка)**

Пры моцным засьмечаньні асобных палёў аўсюгам пасеў яравых коласавых культур (яравая пшаніца, авёс, ячмень) не павінен утварацца на працягу 3—4 год на гэтых палёх і павінен быць заменен пасевам другіх культур (азімыя, прапашныя, травы).

Меры барацьбы з аўсюгам могуць быць арганізаваны таксама ў раньнім папары шляхам успашкі яго на глыбіню 15—18 сантымэтраў і наступнымі перапашкамі: першай—на 10—12 сантымэтраў і другой—на 8—10 сантымэтраў.

Тэрміны перапашак вызначаюцца ступеньню засьмечаньня і хуткасьцю адрастаньня аўсюга. За 15—20 дзён да пасеву азіміны поле, асабліва калі яно сьпярша пакрылася ўсходамі аўсюга, лушчыцца на глыбіню 6—8 сантымэтраў. Перапашка і лушчэньне павінны суправаджацца баранаваньнем.

Тыя-ж прыёмы барацьбы павінны ўжывацца пры засьмечаньні палёў палявой гарчыцай і сурэпкай.

# Рашуча змагацца з пустазельлем

У зьніжэньні ўраджаяў культурных расьлін пустазельлю належыць першае месца.

Паводле нязначных падлікаў, па віне пустазельля мы штогод трацім ня менш 200 млн. цэнтнэраў аднаго толькі збожжа. Пустазельле драпежніцкі аднімае ваду, спажыўныя рэчы, сьвет у культурных расьлін. Так пустазельле—асот у паўтары разы больш бярэ вільгаці з глебы, чым пшаніца, пасеяная на тым-жа самым вучастку.

Пустазельле—палявая рэдзька ў два разы больш бярэ такіх каштоўнейшых спажыўных рэчаў, як азот і фосфар, і ў чатыры разы больш вапны ў параўнаньні з аўсом, які ён засьмечвае.

Цэлая група пустазельля, не задавальняючыся заходам спажыўных рэчаў з глебы, селіцца на жывым целе культурных расьлін, высасвае сокі, якія павінны былі-б пайсьці на стварэньне хлебных зерняў, масьлічнага насеньня, пладоў, ягад і г. д.

Пустазельле, засьмечваючы сваім насеньне зерне пшаніцы, аўса, ільну, канюшыны і інш., псуе якасьць атрымліваемай прадукцыі. Рад насеньня пустазельля надае чорны колер муцэ, прыводзіць да затхласьці, надае горкі смак і часта домешка іх атручвае чалавека.

Большасьць пустазельля зьяўляецца ачагом для масавага размнажэньня шкодных насякомых і грыбных захворваньняў. Провалачны чарвяк, азімы чарвяк, дугавы матыль, іржа, галаўня, плесьні і іншыя шкоднікі і хваробы, зьяўляючыся на пустазельлі, размнажаюцца ў вялізарнай колькасьці і пераходзяць з пустазельля на культурныя расьліны.

Барацьба з пустазельлем павінна зрабіцца асноўным мерапрыемствам у практыцы кожнага калгасу і саўгасу. У кожным калгасе і саўгасе ў плян аграмерапрыемстваў трэба ўключаць плян барацьбы з сьмяцьцёвай расьліннасьцю, як адной з рашаючых мер павышэньня ўраджайнасьці.

Кожная брыгада саўгасу і калгасу да пачатку веснавых палявых работ павінна ведаць, якім пустазельлем засьмечан яе вучастак, і старанна прапрацаваць меры барацьбы з гэтым пустазельлем. Не павінна быць ніводнай брыгады, не паслаўшай свайго брыгадзіра на курсы па вывучэньні спосабаў барацьбы з пустазельлем.

Асноўнымі прыёмамі барацьбы з сьмяцьцёвай расьліннасьцю павінны быць спосабы, указаныя саюзным наркамземам: зяблевая ўспашка, чыстыя раньнія і занятыя папары, увядзеньне правільнага севазвароту, пажніўнае лушчэньне і цэлы рад другіх мерапрыемстваў.

Трэба памятаць, што няма і ня можа быць агульных правіл барацьбы з асобны відамі пустазельля. Кожнае пустазельле патрабуе асобных прыёмаў яго зьнішчэньня. Толькі вывучыўшы ворага, яго асаблівасьці і слабыя бакі, можна з посьпехам яго перамагчы.



# Як вымяраць сілосныя траншэі і ямы

Сучаснасьць патрабуе, каб кожны калгасьнік, кожная калгасьніца набылі неабходныя тэхнічныя веды, якія-б дапамаглі лепш наладзіць калгасную вытворчасьць. Недахоп кваліфікаваных спэцыялістаў асабліва высоўвае задачу перад калгасьнікамі аб набыцьці тэхнічных ведаў, патрэбных для прымяненьня ўнутры сваёй гаспадаркі.

Зараз надыходзіць кампанія сіласаваньня кармоў. Патрэбна ўжо прыступіць да падрыхтоўкі сілосных ям і траншэй. Пры гэтым патрэбна ўлічыць недахопы мінулых гадоў у гэтым пытаньні.

Адным з такіх недахопаў было тое, што ў шмат калгасах ня ўмелі вылічыць, якой велічыні патрэбна сілосная яма або траншэя, згодна данага пляну сіласаваньня. У выніку гэтага атрымоўвалася тое, што некаторыя калгасы зьмяншалі патрэбную велічыню ямы, а адгэтуль зьмяншалі заданьне. Ня мала было выпадкаў, што яму, якая зьмяшчала 30 тон сілосу, лічылі за 50—60 тон і такія зьвесткі давалі раёнными установам.

Зараз разгледзім некалькі прыкладаў вымяраньня траншэй і ям розных форм. Такое вымяраньне завецца вымяраньнем аб'ёмаў. Аб'ём мераецца кубічнымі адзінкамі. Плошча мераецца квадратовымі адзінкамі.

### Вымяраньне 4-кутных ям і траншэй

Возьмем для прыкладу яму з адвеснымі сьценкамі, г. зн. кут паміж дном і сьценкай ствараецца просты. Даўжыня ямы 20 мэтраў, шырыня 3 і вышыня або глыбіня 4 мэтры. Для таго, каб вымераць аб'ём гэтай ямы, трэба даўжыню памножыць на шырыню і атрыманы лік памножыць на вышыню. Памнажаючы даўжыню на шырыню, мы знаходзім плошчу дна ямы, плошчу памножыўшы на вышыню— знойдзем аб'ём.

Аб'ём такой траншэі будзе равен:

$20 \times 3 = 60 \times 4 = 240$ куб. мэтраў.

У такой траншэі павінна зьмясьціцца сілосу 120 тон., г. зн. на кожны куб. мэтр паўтоны сілоснай масы.

Вылічым адваротным чынам. Прыкладна, калгасу па пляну трэба засіласаваць 180 тон зялёнай масы. Раней трэба абмеркаваць, якой шырыні і глыбіны капаць траншэю. Улічваючы блізкасьць падыходу грунтовых вод, калгас рашыў капаць траншэю глыбінёй 3 мэтры і шырынёй 3 мэтры, калі будзе траншэя абліцоўвацца, трэба для абліцоўкі капаць на 1 мэтр шырэй. Для 180 тон сіласу, траншэя павінна мець аб'ём 360 куб. мэтраў (на кожны куб. мэтр паўтоны). Якой даўжыні трэба капаць траншэю? Ужо ведаем як знайсьці аб'ём траншэі. Шырыня і глыбіня нам вядома. Перамножам гэтыя два лікі $3 \times 3 = 9$. Аб'ём траншэі нам патрэбен 360 кубмэтраў. Каб знайсьці патрэбную даўжыню траншэі, трэба падзяліць яе аб'ём на атрыманы лік ад перамножаньня шырыні на глыбіню, г. зн. $360 : 9 = 40$. Такім чынам, каб засіласаваць 180 тон сіласу патрэбна траншэя 40 мэтраў даўжыні пры 3 м шырыні і 3 м глыбіні.

Мы разгледзілі вымярэньне 4-кутных траншэй і ям з адвеснымі сьценкамі. Зараз разгледзім як вымяраюцца траншэі і ямы з расхіленымі сьценкамі. Выкапка такіх траншэй заўсёды практыкуецца, калі сілос закладваецца без абліцоўкі траншэі. Для таго, каб вымераць такую траншэю, трэба вымераць плошчу дна, а потым плошчу паверхні. Атрыманыя лікі ад вымярэньня двух плошчаў скласьці і падзяліць на два. Гэтым самым мы знойдзем сярэднюю плошчу. Сярэднюю плошчу памнажаем на вышыню і атрыманы лік будзе аб'ёмам траншэі.

Прыкладна: шырыня дна траншэі 2 мэтры, даўжыня 10 м. Шырыня ўверсе траншэі 3 мэтры, даўжыня ўверху 12 *м*. Вышыня 4 мэтры.

1. Плошча дна.

   $10 \times 2 = 20$ кв. мэтраў.

2. Плошча паверхні:

   $12 \times 3 = 36$;

3. Сярэдняя плошча:

   $20 + 36 = 56 : 2 = 28$ кв. м.

Аб'ём траншэі будзе раўняцца:

$28 \times 4 = 112$ куб. м.

### Вымярэньне круглых ям

Каб вызначыць аб'ём круглай ямы патрэбна плошчу дна памножыць на глыбіню ямы. Зараз мы разгледзім як вымяраецца плошча круга. Для большага разуменьня мераньня плошчы круга, нам трэба скласьці паняцьце аб акружыні, дыямэтры і радыусе. Круг—гэта плошча: акружына гэта граніца круга; дыямэтр лінія, якая праходзіць праз цэнтр круга ад аднаго боку акружыны да другога і падзяляючая круг на дзьве роўныя часткі. Радыус—лінія, праходзячая ад акружыны да цэнтра круга. Радыус ровен палове дыямэтра.

Вылічана, што акружына больш дыямэтра ў 3,14 разы. Такім чынам, каб вымераць акружыну, патрэбна дыямэтр памножыць на 3,14. Напр., дыямэтр ямы 5 мэтраў. Акружына будзе роўна: $5 \times 3{,}14 = 15{,}7$ мэтра. Для таго, каб даведацца плошчу дна ямы, трэба палову акружыны памножыць на радыус. Палова акружыны будзе 7,85 мэтра. Радыус ровен палове дыямэтра, г. зн. 2,5 мэтра. Такім чынам плошча круга будзе роўна $7{,}85 \times 2{,}5$— 19,62 кв. мэтр.

Вымераўшы плошчу дна, патрэбна вымераць глыбіню ямы і памножыўшы плошчу дна на глыбіню, даведаемся аб'ём усёй ямы.

Калі такая круглая сілосная яма будзе мець расхіленыя сьценкі, то вымярэньне яе будзе падобна да вымярэньня траншэі з расхіленымі сьценкамі, г. зн. вымяраецца плошча дна і плошча паверхні ямы. Сума гэтых плошчаў падзяляецца на 2 і атрыманая сярэдняя плошча памнажаецца на глыбіню ямы.

Дзеля таго, каб не рабіць гэтых досыць складаных вылічэньняў для вызначэньня велічыні сілосных круглых ям і вежаў, прыводзіцца табліца, дзякуючай якой магчыма знайсьці вялічыню радыуса і глыбіню ямы ў залежнасьці ад таго, які аб'ём у кубамэтрах патрэбен. Прыкладна, па пляну калгасу трэба засіласаваць 75 тон. Для гэтага патрэбна яма аб'ёмам у 150 куб. мэтр, калгас лічыць, што глыбіню ямы магчыма зрабіць 4,5 мэтра.

Такім чынам у табліцы ў стаўбцу „глыбіня ў мэтрах“ адшукваем лік 4,5 і па горызантальнай лініі, дзе стаіць гэта лічба, шукаем прыблізны лік да 150 куб. м.

У гэтым прыкладзе ў табліцы знойдзем лік 149,2 куб. м. На вярху гэтага стаўбца паказаны радыус для гэтай ямы. У даным выпадку радыус будзе 3,25 м. Такім чынам няма патрэбы вылічваць, якой велічыні патрэбен радыус для той ці іншай ямы. Гэта табліца дапамагае хутчэй вылічваць.

Зрабіўшы разьлік, якой велічыні патрэбна яма, неабходна намеціць цэнтр і ў гэтым месцы, дзе намечана, капаць. Для гэтага патрэбна мець два колікі і вяроўку. Вяроўка завязваецца за колікі на адлегласьці 3,25 м (радыус). Адзін кол убіваецца ў зямлю, а другім адчэрваецца акружына пры нацягнутай вяроўцы, напр., у 3 25 м радыуса. Яма глыбінёю 4,5 м умесьціць 75 тон сілосу. Калі мяркуецца рабіць абліцоўку, заўсёды патрэбна павялічваць радыус на 30—50 сантымэтраў больш, чым у табліцы.

## Т А Б Л І Ц А

### для вылічэньня аб'ёму ў куб. мэтрах круглых сілосных ям і вежаў

| Глыбіня ў мэтрах | Р А Д Ы У С У М Э Т Р А Х | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 0.5 | 0.75 | 1.0 | 1.25 | 1.5 | 1.75 | 2.0 | 2.25 | 2.5 | 2.75 | 3.0 | 3.25 | 3.5 | 3.75 | 4.0 | 4.25 | 4.5 |
| 1.0 | 0.7 | 1.8 | 3.1 | 4.9 | 7.0 | 9.6 | 12.5 | 15.9 | 19.6 | 23.7 | 28.2 | 33.2 | 38.5 | 44.2 | 50.2 | 56.7 | 63.6 |
| 1.5 | 1.1 | 2.6 | 4.7 | 7.3 | 10.6 | 14.4 | 18.8 | 23.8 | 29.4 | 35.6 | 42.4 | 49.7 | 57.7 | 66.2 | 75.4 | 85.1 | 95.4 |
| 2.0 | 1.5 | 3.5 | 6.3 | 9.8 | 14.1 | 19.2 | 25.1 | 31.8 | 39.2 | 47.5 | 56.5 | 66.3 | 76.9 | 88.3 | 100.5 | 113.4 | 127.2 |
| 2.5 | 1.9 | 4.4 | 7.8 | 12.2 | 17.6 | 24.0 | 31.4 | 39.7 | 49.0 | 59.4 | 70.6 | 82.9 | 96.2 | 110.3 | 125.6 | 141.8 | 159.7 |
| 3.0 | 2.3 | 5.3 | 9.4 | 14.7 | 21.2 | 28.8 | 37.0 | 47.7 | 58.9 | 71.2 | 84.8 | 99.5 | 115.4 | 132.5 | 150.7 | 170.1 | 190.8 |
| 3.5 | 2.7 | 6.2 | 11.0 | 17.2 | 24.7 | 33.6 | 44.7 | 55.6 | 68.7 | 83.1 | 98.9 | 116.1 | 134.1 | 154.5 | 175.8 | 198.5 | 222.6 |
| 4.0 | 3.1 | 7.0 | 12.5 | 19.6 | 28.2 | 38.4 | 50.2 | 63.6 | 78.5 | 95.0 | 113.0 | 132.7 | 153.9 | 176.6 | 201.0 | 226.9 | 254.3 |
| 4.5 | 3.5 | 7.9 | 14.1 | 22.0 | 31.8 | 43.2 | 56.5 | 71.5 | 88.3 | 106.8 | 127.1 | 149.2 | 173.1 | 198.7 | 226.1 | 255.2 | 286.1 |
| 5.0 | 3.9 | 8.8 | 15.7 | 24.5 | 35.3 | 48.0 | 62.8 | 79.5 | 98.1 | 118.7 | 141.3 | 165.8 | 192.3 | 220.8 | 251.2 | 283.5 | 317.9 |
| 5.5 | 4.3 | 9.7 | 17.3 | 27.0 | 38.8 | 52.9 | 69.1 | 87.4 | 107.9 | 130.6 | 155.4 | 182.4 | 211.6 | 242.8 | 276.3 | 311.9 | 348.7 |
| 6.0 | 4.7 | 10.6 | 18.8 | 29.4 | 42.4 | 57.7 | 75.3 | 95.4 | 117.7 | 142.5 | 169.6 | 199.0 | 230.9 | 264.9 | 301.4 | 340.3 | 381.5 |
| 6.5 | 5.1 | 11.5 | 20.4 | 31.9 | 45.9 | 62.5 | 81.6 | 103.3 | 127.5 | 154.3 | 183.7 | 215.6 | 250.0 | 287.0 | 326.6 | 368.6 | 413.3 |
| 7.0 | 5.5 | 12.3 | 22.0 | 34.3 | 49.4 | 67.3 | 87.9 | 111.3 | 137.3 | 166.2 | 197.8 | 232.1 | 269.2 | 309.1 | 351.7 | 397.0 | 445.1 |
| 7.5 | 5.9 | 13.2 | 23.5 | 36.8 | 53.0 | 72.1 | 94.2 | 119.2 | 147.2 | 178.1 | 211.9 | 248.7 | 288.5 | 331. 2 | 376.8 | 425.4 | 476.9 |
| 8.0 | 6.3 | 14.4 | 25.1 | 39.3 | 56.5 | 76.9 | 100.5 | 127.2 | 150.0 | 188.0 | 226.0 | 265.3 | 307.7 | 353.2 | 401.3 | 453.7 | 508.7 |
| 8.5 | 6.7 | 15.1 | 26.7 | 41.7 | 60.0 | 81.7 | 106.8 | 135.1 | 166.8 | 201.8 | 240.2 | 281.9 | 326.0 | 375.3 | 427.0 | 482.1 | 540.5 |
| 9.0 | 7.0 | 15.9 | 28.2 | 44.1 | 63.5 | 86.5 | 113.0 | 145,1 | 176.6 | 213.7 | 254.3 | 298.5 | 346.2 | 397.4 | 452.2 | 510.4 | 572.3 |
| 9.5 | 7.4 | 16.8 | 29.8 | 46.6 | 67.1 | 91.3 | 119.3 | 151.0 | 186.4 | 225.6 | 268.5 | 315.1 | 365.4 | 419.5 | 477.3 | 538.8 | 604.6 |
| 10.0 | 7.8 | 17.6 | 31.6 | 49.1 | 67.5 | 96.1 | 125.6 | 159.2 | 196.2 | 237.4 | 282.6 | 331.7 | 384.6 | 441.6 | 502.4 | 567.1 | 535.8 |

**У в а г а:** Вылічэньні з дасканаласьцю да 0,1

Аграном М. Харытановіч.

# Тэхніка сіласаваньня кармоў у ямах і траншэях

У мінулым з боку некаторых калгасаў неаднаразова былі гаворкі аб тым, што „сіласаваны корм кепскі і яго ня хоча есьці жывёла". Такія разважаньні былі там, дзе не ўлададілі гэтай справай, не ўладалі тэхнікай сіласаваньня. У большасьці калгасы абмяжоўваліся закладкай сіласу ў адзін-два тэрміны, з мэтай выкарыстаньня яго ў вясеньні перыяд. Такое становішча трэба лічыць ненармальным. Наша задача: забясьпечыць жывёлу сіласным кормам ня менш як на восень, зіму і вясну. Гэтага патрэбна і магчыма дасягнуць, калі пачаць закладку сіласу з вясны і да позьняй восені, разьбіўшы такім чынам, гэту працу на некалькі тэрмінаў і па меры росту зяленіны напаўняць ямы і траншэі.

## Якія расьліны скарыстоўваць у сілос

Лепшымі расьлінамі для сіласаваньня па сваіх харчовых якасьцях зьяўляюцца: сланэчнікі, кіяхі (кукуруза), канюшына, атава з сенажаці, вікааўсяная мешанка і розныя бабовыя.

**Сланэчнік і кіяхі**, акрамя сваіх харчовых якасьцяў, яшчэ выгадны для сіласаваньня тым, што складаюць вялікую зялёную масу. З гектара зялёнай масы атрымліваецца да 70 тон сілосу. З прычыны такой вялікай колькасьці масы сабекошт 1 тоны сіласу абыходзіцца надзвычайна танна.

Акрамя пералічаных расьлін, яшчэ з вялікім посьпехам магчыма скарыстаць рознае пустазельле (акрамя шкодных). Такія расьліны як крапіва, аір, лебяда, чарот, бульбоўнік, галіны клёну, бярозы, арэшніку,—у сіласаваным выглядзе жывёла з ахвотай паядае.

Акрамя зяляніны, у сілас прыгодны ў мешанцы нявысахшае сена, розныя гуменныя астачы, лісьце ападаючае з дрэў і інш.

З пустазельля некаторыя расьліны непатрэбна зусім ужываць у сілас, бо яны могуць шкодзіць жывёле. Да такіх адносяцца: балігалоў, дурман, белена, жывакосьць, чэраміца і едкі люцік.



## Калі і што сіласаваць

Уборку на сілас, як культурных, так і сьмяцьцёвых расьлін трэба рабіць тады, калі яны дасягаюць больш поўнага свайго росту, з мэтай атрыманьня большай зялёнай масы.

Прыкладна, для ўсіх расьлін, скарыстоўваемых на сілас, магчыма ўстанавіць наступныя тэрміны сіласаваньня:

**чэрвень месяц**—крапіва, лебяда, чарот, аір, розныя асокі і галіны ад лісьцевых дрэў;

**ліпень месяц** — віка-аўсяная мешанка, рознае пустазельле ад полкі гародаў, галіны дрэў і асокі;

**жнівень месяц**—бульбоўнік раньніх гатункаў, кіяхі, сланэчнік, пустазельле, галіны дрэў і некаторыя гародныя адкіды;

**верасень месяц**—у пачатку месяца—другі ўкос канюшыны і сенажаці, кіяхі, сланэчнік, адкіды гародніны і некаторае пустазельле. У канцы месяца—пераважна бульбоўнік і гароднія адкіды.

**кастрычнік месяц**—гуменныя астачы, бацьвіньне розных караньплодаў і гародніны.

## Якая павінна быць яма і траншэя для сілосу

Яма можа быць умясьцімасьцю ня менш, як на 10 тон, у адваротным выпадку ёсьць небясьпека значнага працэнту псаваньня. Максымальнай велічынёй ямы лічыцца аб'ём 160 куб. мэтраў або 80 тон.

Яма па сваёй форме можа быць круглай і чатырохкутнай. У залежнасьці ад грунту, сьценкі ямы могуць быць адкосымі або адвеснымі.

Траншэя можа быць любой велічыні. Шырыня яе ад 2 з пал. да 4 мэтраў. Для таго, каб сіласаваньне ў траншэі расьцягнуць на некалькі тэрмінаў, самую траншэю можна разьбіць на некалькі ячэек і пасьлядоўна запаўняць кожную.

Больш якасны сіласны корм атрымліваецца як у яме, так і ў траншэі з добрай абліцоўкай. Лепшай абліцоўка зьяўляецца з цэманту, цэглы і дошак. З такой абліцоўкі яна можа існаваць без рамонту некалькі год. Але больш простай і таннай будзе абліцоўка з плятня, замазанага глінай. На цьвёрдым гліняным грунце магчыма зусім ня ўжываць абліцоўкі, але ў такім выпадку сьценкі ямы павінны быць адкосымі, каб ня было абвалу.

Трэба памятаць, што ў ямах і траншэях з плятнёвай абліцоўкай і без абліцоўкі сілос ад сьценак будзе недобраякасным, прыкладна на 10 сантымэтраў, які (сілос) на корм ужываць небясьпечна. Асабліва патрэбна прадугледзіць, каб у яму і траншэю ня было падыходу грунтовых вод.

## Загрузка сілосу

Калі падрыхтавана траншэя ці яма і ёсьць у наяўнасьці зяляніна, тады магчыма пачаць сіласаваньне.

Рэзка зяляніны неабходна галоўным чынам для плотнай укладкі сілоснай масы, а таксама для таго, каб гэта зяляніна хутчэй пусьціла сок і закрыла ўсе шчыліны, дзе знаходзіцца паветра, бо паветра зьяўляецца галоўным ворагам сілосу. Рэзка зеля-

ніны павінна быць, асабліва рыхлых сьцяблоў, больш дробнай, 3—5 сантымэтраў велічыні. Дробную зеляніну, як, напрыклад, атаву, гароднае пустазельле—магчыма зьмешваць з рэзанай масай.

Бульбоўнік, пустазельле і гуменныя адкіды абавязкова ужываць у сілас у мешанцы з іншай зелянінай. Не дазваляць закладку асобнымі пластамі, бо выбірацца сілос будзе пластамі і нельга дапусьціць таго, каб адзін дзень жывёле даваць бульбоўнік, а на другі—кіяхі ці канюшыну. Дзеля лепшай перамешкі рознай па якасьці зеляніны патрэбна ўстанавіць дзьве рэзкі, або карыстацца адной, але папераменна рэзаць лепшы і горшы корм.

У час рэзкі корма патрэбна шчыльна ўтрамбоўваць масу. Асабліва добрую ўтрамбоўку рабіць каля сьцен. Утрамбоўку рабіць лепш спэцыяльна зробленымі калатушкамі, а таксама нагамі. У траншэях, даўжыней да 20 мэтраў, магчыма для ўтрамбоўкі пускаць каня. Патрэбна ў час рэзкі і трамбоўкі сачыць за тым, каб не папала ў масу зямля і іншы бруд, што можа пашкодзіць жывёле.

Праз кожны мэтр утрамбованай масы пажадана дабаўляць літраў 2-3 прастаквашы ці літраў 5 сыраваткі. Прастакваша спрыяе разьвіцьцю малочнакіслых бактэрый, без якіх ня можа быць дабраякаснага сіласнага корму.

Соль дабаўляць, як гэта часам практыкуецца, непатрэбна, бо яна ў некаторай ступені шкодзіць разьвіцьцю малочна-кіслых бактэрый у сіласе.

Увесь працэс сіласаваньня павінен цягнуцца ня больш 3-4 дзен—у сярэдняй велічыні ямах, а ў малых (10-20 тон)—1-2 дні. Хуткасьць закладкі сіласу пры гэтым халодным спосабе сіласаваньня неабходна з той прычыны, каб зеляніна пад уплывам паветра не магла псавацца.

У тых выпадках, калі па якіх-небудзь прычынах не зьяўляецца магчымым за 3-4 дні скончыць сіласаваньне, тады неабходна ужыць спосаб гарачага сіласаваньня. Асабліва гэты спосаб патрэбна ужываць яшчэ ў тых выпадках, калі сіласуемая маса больш сухая. Гарачае сіласаваньне дасягаецца менш шчыльнай утрамбоўкай сіласнай масы. Пры гэтым магчыма сіласаваць нярэзаную зеляніну напалову зьмешваючы з рэзанай. Насыпаўшы ў яму масы і зьлёгку ўтрамбаваўшы яе слоем на 1 мэтр—робіцца перарыў на 1-2 дні. За гэты час сілосная маса разаграецца да 55° па Цэльсію. Пасьля гэтага зноў набіваюць слой у 1—1½ мэтра, праз 1—2 дні трэці і г. д. Затым закладваюць масу дошкамі і паверх накладаюць груз, каб сілос хутчэй асеў. Асеўшы, дакладаюць зноў зелянінай.

Пры гэтым спосабе сіласаваньня патрэбна асабліва сачыць за падвышэньнем тэмпэратуры. Калі яна становіцца вышэй 55°, патрэбна слой больш ушчыльніць, пачаць засыпаць другі наверх гэтага.

Калі сіласуецца зеляніна з недастатковай вільготнасьцю (больш сухая) неабходна, як пры халодным, так і гарачым сіласаваньні дабаўляць ваду. Прыкладна на адну тону такой зеляніны патрэбна дадаваць 7-10 ведзер вады.

Атрыманы сілос ад гарачага сіласаваньня бывае больш смачны (салодкі), але спажыўных матэрый ён мае менш, чым халодны сілос. Пры закладцы гарачага сілосу, у практыцы было больш выпадкаў псаваньня, чым пры халодным сіласаваньні. Таму патрэбна раіць ужываць больш халоднае сіласаваньне.

## Закрыцьце сілоса

Перад закрыцьцем ямы ці траншэі сілосная маса павінна быць насыпана вышэй паверхні ямы. На сілос зьверху накладаецца слой змочанай мякіны таўшчынёй у 20 сантымэтраў. Паверх слой саломы 25-30 сант. і наверх зямлі (лепш гліны) 50 сант. Зрабіўшы такую насып, трэба зраўняць і ўшчыльніць. Побач насыпу ямы і траншэі патрэбна, у адлегласьці ½ мэтра, пракапаць канаўку для стоку вады. На зімовы час, каб зьберагчы сілос ад прамярзаньня, неабходна зьверху зямлі палажыць слой гною. Пажадана над сіласам зрабіць просты навес, з тым, каб не размываў паверхню дождж.

Зрабіўшы добрую сілосную яму, належным чынам парэзаўшы і утрамбаваўшы сілосную масу, добра ўкрыўшы яе,—упаўне гарантыраван выхад самага добраякаснага сілоснага корму. Прычым, такі сілос можа захоўвацца ў яме да 2 год. Наогул жа сілос магчыма адкрываць для скармліваньня праз 3 месяцы.

А. Х—ч.

## Ш т о д а у с у б о т н і к



На здымках: (Налева). Адзін з працаўнікоў райкалгассаюзу за чыткай палявой брыгаднай газэты, выпушчанай у час суботніку ў калгасе імя Сталіна.

2. (Направа). Чырвонаармейцы-пагранічнікі ў час перапынку за калектыўнай чыткай газэт.

У калгасе імя Сталіна, Жоўнінскага сельсавету, Дрысенскага раёну, дрэнна праходзіла веснавая сяўба. 18 мая чырвонаармейцы-пагранічнікі з Дрысы, працаўнікі райкалгассаюзу і райза разам з буксірнай брыгадай калгасаў імя Красіна і „Бальшавік" правялі ў калгасе імя Сталіна суботнік. За час суботніка зроблена наступнае: засеяна ільну 7 га, бульбы—1 га, узарана 8,5 га, забаранавана 2 га, вывезена гною 300 вазоў, ачышчана 86 брусоў, абрэзаны суччa з 30 яблынь.

# ПРЫГАТАВАНЬНЕ СЕНА ДЛЯ СЬВІНЕЙ

Склад і процантныя суадносіны спажыўных матэрый корму залежаць ад цэлага комплексу складаных прычын і, у прыватнасьці, ад выгляду сьпеласьці расьлін, ад клімату і надвор'я, угнаеньня і інш. У халоднае лета спажыўных матэрый у расьлінах менш і самі расьліны больш грубыя, а спажыўныя матэрыі горш усвайваюцца. Недахоп сьвету таксама адмоўна адбіваецца на колькасьці і якасьці спажыўных матэрый і на іх усваяемасьці. Добрае ўгнаеньне глебы дае і больш высокай якасьці кармы. Сухія пяскі і цяжкія глебы з недахопам ці лішкам вільгаці абумоўліваюць грубасьць і жорсткасьць корму, беднасьць спажыўных матэрый і дрэнную іх усваяемасьць.

Спосабы прыгатаваньня і захаваньня сена таксама маюць значны ўплыў на якасьць і ўсваяемасьць сена. Сушка травы заключаецца ня толькі ў паменшаньні вільгаці, якой у сене знаходзіцца прыблізна ў пяць разоў менш, чым у траве, але і ў дыэтычных здольнасьцях і смаку корму.

У залежнасьці ад спосабу прыгатаваньня адрозьніваюць зялёнае, бурае і гарэлае сена. Мы разглядзім толькі спосаб прыгатаваньня зялёнага сена, таму што бурае і гарэлае сена менш за ўсё прыгодна для сьвіней.

Вэгетацыйны пэрыяд травы на сена вызначаецца ў 3—5 дэкад ад пачатку роста травы. Травастой сухіх і павышаных месц пасьпявае хутчэй чым нізкіх. Асабліва нельга спазьняцца з уборкай цімафееўкі і лісахвоста, а таксама і другіх злакавых траў, якія неабходна ўбіраць на сена для сьвіней да выкалашваньня. Канюшына ўбіраецца да красаваньня, віка і пялюшка ў пачатку красаваньня, люцэрна за тыдзень да пачатку красаваньня. Касьба травы ўтвараецца касілкамі, якія эканомяць і сродкі, і сілы, і даюць больш аднастайны прадукт.

У мэтах паскарэньня сушкі травы неабходна пераварочваць і падтрэсаць траву, што робіцца як ручным, так і машынным спосабам. Найбольш дэталёва гэтая работа ўтвараецца спэцыяльнымі машынамі-сенаварушылкамі. Па меры высыханьня травы варушэньне трэба рабіць больш асьцярожна для папярэджаньня страты далікатных і ломкіх частак расьлін. Пры добрым сонечным і сухім надвор'і і пры наяўнасьці ветра сушка праводзіцца хутка і страты спажыўных матэрый бываюць мінімальныя. Але і пры сушцы ў добрае сонечнае надвор'е, прыгатаваньне добрага сена залежыць ад работнікаў. Справа ў тым, што хуткае высыханьне лісьцяў садзейнічае лёгкаму абламваньню іх. У сувязі з гэтым вільгаць у сьцяблох застаецца закрытай, сушка праходзіць вельмі марудна, патрабуе шмат часу і, акрамя таго, атрымліваецца значная страта самых каштоўных частак сена—лісьцеў і кветак, на долю якіх у канюшыне прыпадае палова сухіх рэчаў па вазе, а па спажыўнасьці кветкі і лісьце больш каштоўныя за сьцяблы ў два разы. У мэтах давядзеньня страт да мінімуму, сушка травы ў добрае надвор'е праводзіцца наступным чынам.

Трава, скошаная раніцаю ручным ці машынным спосабам, у пачатку правяльваецца ў пракосах. Па меры падсыханьня, звычайна каля палудня, яна пераварочваецца, а пад вечар зьбіраецца ў невялікія копны, якія на другі дзень раскідаюцца, а пад вечар зноў зьбіраюцца. Як сена, так і правяленую траву ні ў якім выпадку нельга пакідаць на нач у раскіданым выглядзе, таму што гэта ўплывае на страту колеру, паху і кармовай каштоўнасьці сена. Таксама нельга надоўга пакідаць траву ляжаць на адным месцы, таму што яна ад сонца зьверху выгарае, траціць лісткі і кветкі і набывае жоўты колер. Канчатковае дасушваньне сена ўтвараецца ў невялікіх копнах. Лісьці і кветкі пры такім спосабе сушкі менш за ўсё абламваюцца і таму менш абламваюцца.

У дрэннае надвор'е нельга даваць траве ляжаць на зямлі, дзе яна хутка загнівае. Сушка ў такое надвор'е ўтвараецца на жэрдках, калах з перамычкамі, загарадках і другіх падстаўках.

Перад разьвешваньнем на ўказаныя прыстасаваньні трава правяльваецца. Само навешваньне ўтвараецца па абсыханьні расы і заканчваецца да выпаданьня вячэрняй расы. Навіваць траву на падстаўкі трэба не да самай зямлі, а на некаторай адлегласьці ад зямлі, што спрыяе вэнтыляцыі і адхіляе магчымасьць загніваньня травы. Пры ўкладцы травы на калы з перамычкамі неабходна яе зьверху закругліць; траве на загарадках надаецца форма страхі, а на пірамідах—выгляд правільнай капны. З бакоў трава ачосваецца і апраўляецца. Пры добрым выкананьні ўказаных апэрацый дождж ня шкодзіць, таму што вада сьцякае па паверхні травы, таксама ня шкодзіць і раса.

Прасушаную траву трэба зьнімаць з прыстасаваньняў пачынаючы зьверху, для лепшага заха-



Ударная брыгада касцоў.

ваньня прыстасаваньняў. Страта спажыўных рэчаў пры сушцы ў рознае надвор'я наступная:

| | |
|---|---|
| Пры самых лепшых умовах . . . . . | 10% |
| „ звычайных уборках у добрае надвор'е | 15—20% |
| „ няспрыяючых умовах . . . . . | 25—40% і нават больш |

Бабовыя травы правяльваюцца ў валках, дзякуючы чаму атрымліваецца мяккае сена з вялікай наяўнасьцю кветак і лісьцяў. Сьпеласьць канюшыннага сена вызначаецца скручваньнем сьцяблоў і прапусканьнем паміж пазногцямі асобнага сьцябла. Як у тым, так і ў другім выпадку не павінна зьявіцца ніводнай кроплі вады.

Акрамя машыннай сушкі для захаваньня травы ўжываецца яшчэ стэрылізацыя травы электрычным токам, што дае магчымасьць захаваць траву ў сьвежым выглядзе на доўгі час. Для гэтай мэты ўжываюцца вялікія цыстэрны з крышкамі, праз якія праходзяць электроды для правядзеньня электрычнага току. Пад уплывам току і цяплыні, якая пры гэтым атрымліваецца, споры і грыбкі гінуць на працягу некалькіх гадзін і трава бяз страты спажыўных рэчаў і бяз зьмены належных траве ўласьцівасьцяй захоўваецца на доўгі час. У сучасны момант праводзяцца досьледы над электрычнай сушкай травы, якая пры гэтым вельмі хутка сохне, а спажыўныя рэчы такога сена як у колькасных, так і якасных адносінах ня ўступаюць траве, з якой атрымана сена.

Высушаная трава патрабуе належнага памяшканьня для хаваньня спажыўных рэчаў сена, яго колеру, паху і інш. Для доўгага хаваньня прыгодна толькі сухое сена, якое складаецца ў закрытае памяшканьне-сенавал, ці на адкрытым паветры складаецца ў стагі. Пры хаваньні ў стагох выбіраецца сухое, узвышанае месца, бясьпечнае ў пажарных адносінах і ад затапленьня вадой у час паводкі. Па баках такіх сенахаваьльняў робяцца адводныя канавы шырынёй у 0,2 і глыбінёй 0,4—0,5 мэтра для папярэджаньня ад падмачваньня вадой. Адлегласьць паміж стагамі ў пажарных адносінах павінна быць ня менш 20—30 мэтраў, а ад жылых памяшканьняў строга разьмяшчаюцца на адлегласьці ня менш 100 мэтраў. Для папярэджаньня ўплыву глебавай вільгаці робяцца з саломы, хвораста, бур'яна, жэрдак і другога матар'ялу насьціл, грубіня якога ў залежнасьці ад месца робіцца да 0,5 мэтра.

Незаконачаныя стагі пры пакіданьні на нач, ці пры перарывах з-за дрэннага надвор'я неабходна прыкрываць брэзэнтам ці саломай.

Пасьля заката сонца ўкладку сена ў копны не рабіць, таму што ў гэты час сена адсырвае і ў далейшым псуецца ў снапох.

Закончаныя стагі зьверху пакрываюцца саломай ці бракаваным сенам грубінёй да 1 мэтра і добра зачосваюцца. У далейшым устанаўляецца сталы кантроль над сенам шляхам вымярэньня тэмпэратуры сена, асабліва зімой і ў адлігу, а таксама пры наступленьні вясны.

**В. Жванскі**

# ЛЮДЗІ, СЛОВЫ, ФАКТЫ

У 1931 годзе 9-га красавіка на зямлі кулакоў, на плошчы 1.032 га была арганізавана магутная савецкая гаспадарка, фабрыка мяса і збожжа, „Прывольле“ (Клімавіцкі раён).

На 1-е студзеня 1932 году саўгас меў 40 коняй, 57 кароў, 3 трактары, 297 сьвінаматак, 343 галавы маладняка, 15 кнывоў-вытворнікаў і 130 чалавек рабсілы. Адыход маладняка быў 42 проц.

Да канца студзеня саўгас меў 32 проц. адыходу маладняка да нарадзіўшыхся і 20,5 к агульнаму пагалоўю. За гэты-ж месяц пала 6 сьвінаматак.

Люты месяц прынёс новыя страты саўгасу ў галіне сьвінагадоўлі. Радзілася за месяц 54 парасёнкі, пала 39, або 72,2 проц. к нарадзіўшымся і 48 проц. да агульнага пагалоўя маладняка.

Амаль не палепшылася становішча ў сакавіку: з 84 нарадзіўшыхся пала 42, або 50 проц. адыходу да нарадзіўшыхся і 48 проц. да агульнага пагалоўя маладняка.

Першы квартал 1932 году даў 91,3 проц. адыходу да нарадзіўшыхся і 30,7 проц. да агульнага пагалоўя маладняка.

З такімі ганебнымі паказчыкамі саўгас закончыў першы квартал 1932 году ў галіне разьвіцьця сацыялістычнай сьвінагадоўлі.

## Хто вінават?

Ганебная, шкодніцкая пляма, пакладзеная рукамі нядбайнікаў: зоатэхніка, вэтпэрсаналу, самімі работнікамі сьвінцэху і трыкутнікам саўгасу.

Аб гэтым мала хто клапаціўся. Абязьлічка і ўраўнілаўка душыла днём і ноччу парасят, бруд у сьвінарніках, каля сьвінарнікаў, дрэннае ненармаванае кармленьне дапамагала абязьлічцы і ўраўнілаўцы „паратыфам“ губіць маладняк. Заядалі вошы парасят. І горш усякае вошы, абязьлічкі і паратыфы гэта бязьдзейнасьць зоатэхніка Жымайцес, якая ў 3—4 дні адзін раз заглядвала ў сьвінарнік, з заспакаеньнем і вясёласьцю праходзіла па калідорах сьвінарніка, затыкаючы нос хустачкай (цяжкае паветра), а ў гэты час пад яе нагамі ў кожным сьвінарніку ляжыць 10—15 парасят (сабралася за 3—4 дні) задушаных, паратыфозных, галодных.

Сямейнасьць дырэктара з зоатэхнікам, а навакол іх тэхнікаў і вэтфэльдшараў перашкаджала правільнаму кіраўніцтву, дапамагла паглыбляць прарыў. У асобных месяцах адыход перавышаў прыплод. К прыкладу: студзень даў 20 проц. адыходу, люты—7 проц., сакавік—50, а першы квартал даў 91,3 проц. адыходу нарадзіўшагася маладняка і 8 сьвінаматак.

Гэтай справай занялася райгазэта „Камуна“, далей РСІ, РК КП(б)Б і РВК. Дырэктар зараз зьнят з работы, але засталася зоатэхнік Жымайцес, якая і зараз сваёй бязьдзейнасьцю дапамагае адыходу маладняка.

Вінаваты знойдзены. Вінаватыя—людзі.

## Новыя людзі

У канцы сакавіка ў саўгасе Сьвінатрэстам на ліквідацыю прарыву па сьвінагадоўлі быў накіраван вэтурач, аднавіўся цалкам увесь трыкутнік, якія зразу па баявому ўзяліся за ліквідацыю прарыву. Сьвінагадоўлю—у цэнтр увагі. Дырэктар Піліпенка, сакратар партячэйкі Кохан, старшыня рабочага камітэту Цюрупа і вэтурач Шкіткін мабілізавалі ўвесь актыў і рабочую масу саўгасаў на ліквідацыю пра-

рыву, павялі шырокую растлумачальную кампанію навакол пытаньня сацыялістычнай сьвінагадоўлі. Абязьлічка, ураўнілаўка, бруд у сьвінарніках у тры дні былі ліквідаваны. Адміністрацыя сыстэматычна пачала выходзіць на дзяжурствы. Вэтурач не пакладаючы рук працаваў сярод рабочых сьвінароў, разьясьняючы як патрэбна даглядаць маладняк і карысьць прагрэсыўна-прэміяльнай аплаты працы. Пачалі прэміраваць лепшых ударнікаў сьвінцэху. Насьценгазэта па-баявому біла вінаватых у прарыве, паказвала твар лепшых работнікаў і работніц, дамагаючыся зьніжэньня працантаў адыходу.

Красавік месяц даў рэальныя вынікі. Новыя людзі дамагліся зьніжэньня працанту адыходу, узьнялі на належную вышыню злучную кампанію, павысілі тcreateварнасьць сьвінапагалоўя. Апарасілася 33 сьвінаматкі, якія далі 403 парасёнкі (12,8 на апарос) з іх пала 65 або 16,1 проц. адыходу нарадзіўшыхся (засталося 10,2 на апарос) і 9,8 проц. адыходу да агульнага пагалоўя.

## Уключаемся ў конкурс

1-га мая на вытворчай нарадзе сьвінцэху распрацаваны ўмовы конкурсу на лепшага старшага сьвінара. Усе работнікі сьвінцэху ўключыліся ў конкурс, узялі на сябе канкрэтныя абавязкі, далі абяцаньне зьнізіць працант адыходу да 0. Уключыліся ў конкурс і ўсе спэцыялісты, цэхавая насьценгазэта і новы вучотчык Сьвірыдаў.

Аб выніках конкурсу гавораць рэальныя паказчыкі ўдарнікаў сацыялістычнай сьвінагадоўлі. За 20 дзён работы пасьля ўключэньня ў конкурс маем наступныя паказчыкі брыгад:

1-я брыгада: Данчэнка Міхась (старшы сьвінар) актыўна змагаецца за арганізацыю працы на сьвінарніку, за своечасовае і правільнае кармленьне, за захаваньне кожнага парасяці і павышэньне таварнасьці сьвінапагалоўя. У яго брыгадзе працуе 4 сьвінаркі, якія па баявому змагаюцца за ўзятыя на сябе абавязкі.

Смалякова В. Даглядае 21 супаросную матку, 15 вытворнікаў. Вельмі добрасумленна адносіцца да працы.

Кручкова В. Даглядае 74 супаросных і халастых, адыходу няма.

Асмалоўская Т. Даглядае 119 ад'ёмышаў, 8 халастых матак, за першую дэкаду пала 2 парася, за другую—1.

Гапеева М. Даглядае 142 ад'ёмышы—за 20 дзён ня было ніводнага адыходу.

Тое-ж самае робяць брыгады і Белкінай, Курзянкавай, Селібранава, Галалобавай, Андрэеўскай і г. д.

Дзякуючы добрай арганізацыі працы, зацікаўленасьці саміх работнікаў сьвінцэху і правільнаму кіраўніцтву вэтурача Шкіткіна за 20 дзён работы адыход складае 2,6 проц.

## Змагаемся па-бальшавіцку

З 20 мая саўгас рэарганізаваны: арганізаваны 4 сьвіных фэрмы з закончаным зваротам стада, арганізаваны лягеры, работа працякае па-новаму. Кожная работніца сьвінарка добра ведае за што змагаецца, што кожнае паўшае парасё залічваецца на яе рахунак; добры апарос і захаваньне яго поўнасьцю добра аплачваецца.

Брыгада Селібранава (сьвінарнік № 1) даглядае супаросных 10, падсосных 30, парасят 230, вытворцаў—2, за 10 дзён было 3 апаросы, нарадзілася 28 парасят, пала 6 парасят. Засталося на апарос 7,3 працант. Працант адыходу 2,3 проц.

З пераводам на сьвінафэрму ў залежнасьці ад працанту адыходу ўзрастае або паніжаецца зарплата Селібранаву—за апаросы—39 р. 20 к., плюс тарыфную стаўку 16 р. 20 кап., вычытаў за адыход 16 р. 20 кап. За 10 дзён належыць атрымаць 39 р. 20 к.

Белькіна—22 р. 40 к. плюс 9 р. 62 кап. мінус 9 р. 90 кап.. атрымаецца 22 р. 12 кап.

Брыгада Куранковай (сьвінарнік № 2). Супаросных 17, падсосных 24, парасят 182, вытворцаў—1, за 10-цідзёнку было апаросаў 3, нарадзілася парасят 21, адышло 4. Засталася 5,3 парасяці на апарос, агульны адыход 1,9 проц.

Атрымліваюць: Куранкова В.—29 р. 40 к., плюс 16 р. 20 к. мінус 13 р. 50 к., разам 32 р. 10 к.

Па такім мэтадзе аплачваюцца ўсе брыгады.

Месяц ударнай работы па конкурсу на лепшага старшага сьвінара, даў рэальныя вынікі ў бок паніжэньня працанту адыходу, павышэньня таварнасьці сьвінапагалоўя, пасьпяховага выкананьня злучной кампаніі і павышэньне зарплаты саміх рабочых сьвінцэху.

За май месяц было 69 апаросаў, нарадзілася 539 парасят, з іх 46—адыходу. На адзін апарос нарадзілася 7,8 парасят, засталося 7,1. Агульны працант адыходу за месяц 5,8.

* * *

У саўгасе ёсьць некаторыя прарывы. У галіне злучной кампаніі плян выкананы на 1-е чэрвеня на 70 проц., дрэнна і са здачай таварнай прадукцыі; плян толькі пачынаюць выконваць, сарвана папаўненьне сьвінаматак на стада за лік свайго маладняка, патрэбна было перавесьці да красавіка 91 галаву гэтыя сьвінаматкі ёсьць, але па віне бязьдзейнасьці зоатэхніка Жэмайцеса, яны не пераводзяцца. Слаба ідзе выбракоўка і пастаноўка на адкорм—таксама па віне зоатэхніка.

Маючыяся прарывы павінны быць зараз-жа ліквідаваны. Вінаватыя павінны панесьці адказнасьць.

Трыкутнік саўгасу „Прывольле", спэцыялісты і ўвесь рабочы калектыў саўгасу разьвіцьцё сацыялістычнай сьвінагадоўлі павінны паставіць цэнтральнай задачай дня. Конкурс на лепшага старшага сьвінара ператворым у масавы паход за 100 проц. захаваньне маладняка, за павышэньне таварнасьці сьвінапагалоўя, за санітарыю, правільнае кармленьне і прымяненьне зоатэхнікі і вэтэрынарыі. Зараз кожная брыгада ў трохдзёнку выпускае брыгадную насьценгазэту і ў пяць дзён цэхавую, шырока разгортваючы крытыку і самакрытыку. Шэсьць умоў тав. Сталіна—шэсьць умоў перамогі ў саўгасе „Прывольле" рашуча праводзіцца ў жыцьцё.

Ударнікі сацыялістычнай сьвінагадоўлі заяўляюць, што не на словах, а на справе змагаемся і будзем змагацца за пяршынство ва ўсесаюзным конкурсе на лепшага старэйшага сьвінара.

**Янка Хмель.**

# Прымяненьне авіацыі ва ўмовах БССР па ахове ўраджаю ад шкоднікаў

Рашаючыя посьпехі, дасягнутыя намі ў сельскай гаспадарцы, дзе сацыялістычны сэктар дасягнуў абсалютнай перавагі над аднаасобным, паставілі ва ўсю шырыню рэканструкцыю ўсёй справы і па барацьбе са шкоднікамі сельскай гаспадаркі.

Зараз ва ўсю шырыню паўстала пытаньне павышэньня ўраджайнасьці на аснове прымяненьня высокай тэхнікі ў калгасах, саўгасах і МТС і дасягненьняў агранамічнай навукі. Калгасы і саўгасы стварылі ўсе прадпасылкі для ўнядрэньня высокай тэхнікі як трактара, камбайна, аўтамабіля. У сучасны момант перад сацыялістычнай гаспадаркай паўстала пытаньне аб масавым скарыстаньні аэрапланаў. У некаторых раёнах Савецкага Саюзу— Туркестане, Паўночным Каўказе, — самалёт ужо адыгрывае вялікую ролю ў справе аховы сацыялістычнага ўраджаю ад шкоднікаў і хвароб.

Адначасова з правядзеньнем барацьбы са шкоднікамі сельскай гаспадаркі—самалёт вялікае месца займае па пасеву рысу, у аэрофотоздымцы і для мясцовай сельскагаспадарчай сувязі. Але патрэбна адзначыць, што гэтым яшчэ не выкарыстоўваюцца магчымасьці прымяненьня сельскагаспадарчай авіацыі ў сельскай гаспадарцы. Ва ўмовах плянавай сацыялістычнай гаспадаркі самалёт можа знайсьці больш шырокае прымяненьне. Авіяработы ў мінулым годзе па Савецкім Саюзе ўжо перавысілі работы любой капіталістычнай краіны. Для таго, каб больш сабе ўявіць тую выгаду, якую нам можа даць самалёт, прыведзем некалькі лічбовых даных. Напрыклад, для барацьбы з саранчою на плошчы 5000 **га** патрэбна затраціць да 1000 чалавекадзён; у той час калі самалётам магчыма гэтую плошчу апрацаваць за 30 дзён. Барацьба са шкоднікамі бабовых расьлін пры наземных мэтадах каштуе 19 р. 55 к., а пры прымяненьні самалёта—9 р. 01 к. Барацьба з садовымі шкоднікамі звычайна каштуе 58 р. 38 к., а пры скарыстаньні самалёта 11 р. 18 к., са шкоднікамі лесу ад 38 да 80 р., а пры ўжываньні авіацыі— 16—20 руб.

Гэтыя лічбы гавораць аб тым, якую вялікую прадукцыйнасьць, а таксама і рэнтабельнасьць дае ўжываньне авіацыі ў справе барацьбы са шкоднікамі сельскай і лясной гаспадаркі. У мінулым годзе па Савецкаму Саюзу працавала 66 самалётаў, якімі зьнішчана саранчы і іншых шкоднікаў на плошчы ў 91364 **га**, садовых—2120 **га**, гарчыцы—2722 **га**, лесу—7479 **га**, ад лугавога матылька—882 **га**, вінаграду—3633 **га**, бавоўніка—26138 **га**, ад лічынак малярыйнага камара—109945 **га**, а ўсяго апрацавана каля 245688 **га** плошчы, што складае ў параўнаньні з 1930 г.—357 проц.

Што датычыцца асобных раёнах, то гэтая лічба разьбіваецца так: па Закаўказьзі апрацавана аўтамэтадам плошчы ад шкоднікаў і хвароб сельскай гаспадаркі 132921 **га**, па Сярэдняй Азіі—23685 **га**, Украіне—10714 **га**, па Ніжняй Волзе—18722 **га**, Сярэдняй Волзе—3800 **га**, Паўночным Каўказе— 12.853 **га**, па Дагестану—19782 **га**, Казакстану— 20701 **га**, па Кіргізіі—620 **га**, ЦЧВ—1870 **га**.

Сярэдняя выпрацоўка аднаго самалёта ў 1930 г. была 4500 **га**, а ў 1931 г.—5000 **га**. У гэтым годзе нагрузка на 1 самалёт прыпадае ў 9000 **га**. Адначасова з павялічэньнем заданьня мяркуецца зьнізіць кошт апрацоўкі аднаго **га** плошчы на 30 проц. у параўнаньні з мінулым годам.

У гэтым годзе агульны аб'ём работ па барацьбе са шкоднікамі сельскай гаспадаркі, па засеву рыса і барацьбе з малярыйным камаром выразіцца ў 1.869.000 **га** плошчы.

У БССР у гэтым годзе будзе працаваць 1 авіябаза. Авіябаза будзе праводзіць барацьбу са шкоднікамі лесаводзтва, ільнаводзтва і канаплягодтвза.

Правядзеньне гэтай работы патрабуе вялікай растлумачальнай работы сярод шырокіх колаў працоўных.

**А. Маркавец.**

Адказныя рэдактары: **С. МІЦЬКОЎ.**
**Н. МІХАЙЛАЎ.**

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 1451. 2125 экз. Уп. Галоўлітбелу № А 2.



шлях
Калектывізацыі
шлях
Калектывізацыі
1931
Калектывізацыі
На 12 мес.—24 нумары 3 р.
„ 6 „ —12 „ 1 р. 50
„ 3 „ — 6 „ — 75
„ 1 „ — 2 „ — 25
ПАДПІСКУ ЗДАВАЙЦЕ НА
ПОШТУ АЛЬБО ЛІСТАНОСЦУ.